ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЗЕМЛЯРОБСТВА

Сяргей Ждановіч і Аўдакім Ярашчук

ПРАЦЫ С.-Г. СЭКЦЫІ ІНСТЫТУТУ
БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ
*(Сшытак 1)*

# ХАРАКТЭРЫСТЫКА
# СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАРУСІ

НА ПАДСТАВЕ ДАНЫХ
АБ ЧУГУНАЧНАЙ І ВАДЗЯНОЙ ПЕРАВОЗКАХ.

МЕНСК 1926.

Пралетарыі ўсіх краеў, злучайцеся!

НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР.

АДДЗЕЛ СЕЛ.-ГАСП. ЭКОНОМІІ.

ВЫП І.

С. А. ЖДАНОВІЧ І А. П. ЯРАШЧУК.

# Характэрыстыка
# СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАРУСІ
## НА ПАДСТАВЕ ДАНЫХ АБ ЧУГУНАЧНАЙ І ВАДЗЯНОЙ ПЕРАВОЗЦЫ.

*(Даклад, прачытаны у агульным сходзе Сельска-гаспадарчай Сэкцыі Інстытуту Беларускай Культуры 6 сакавіка 1925 году).*

Пад рэдакцыяй і з прадмовай
Загадчыка Аддзелу сел.-гасп. Экономіі Н.К.З.
Я. КІСЬЛЯКОВА.

Выданьне Н. К. З. Беларусі
Менск 1926 г.

# ПРАДМОВА.

З нашага пункту гледжаньне зьяўляецца бязспрэчнай думкай, што чым вышэй па сваёй інтэнсыўнасьці сельская гаспадарка тэй ці іншай краіны, тым больш цяжкай і адказнай становіцца праца, як спэцыялістага-практыка, які павінен рабіць уплыў на больш рацыянальную перабудову сельскае гаспадаркі, так і спэцыялістага-дасьледчыка, які павінен у размаітасьці жыцьця злавіць найбольш важнае, тыповае, характэрнае. Урэшце, навуковы працаўнік, які, падагульваючы працу практыка і дасьледчыка, фармуе тыя ці іншыя погляды наконт істоты сельскае гаспадаркі, шляхоў яе далейшага росквіту, у інтэнсыўнай краіне знаходзіцца ў больш цяжкім і заблытаным стане, асабліва калі гэта краіна зьяўляецца продуктам складанага гістарычна-экономічнага мінулага або будуе сваё жыцьцё ў размаітых прыродных умовах.

Сельская гаспадарка Беларусі ў сваім разьвіцьці дасягнула даволі высокага стопня інтэнсыўнасьці і цяпер займае другое месца сярод іншых краін СССР (на першым—Заходняя Украіна). Сельская гаспадарка Беларусі інтэнсыфікавалася ў вельмі няспрыяючых прыродна-гістарычных і соцыяльна-экономічных умовах. Сельская гаспадарка Беларусі ў розных сваіх частках размаіта і дае на параўнаўча малым абшары такое багацьце тыпаў гаспадарак, якое на такім жа абшары не магчыма сустрэць у іншых краінах Саюзу.

Вось чаму здавалася-б, што больш высокія запатрабаваньні практыкі і тэорыі сельскай гаспадаркі Беларусі выклікалі патрэбу грунтоўнага вывучэньня стану гэтай гаспадаркі, патрэбу ў большым і размаітым матар'ялу, высьвятляючым гэты стан. Багацьце дасьледчага матар'ялу і прац, адпавядаючых рэчавістай інтэнсыўнасьці нашай гаспадаркі—вось нормальны стан рэчаў. Нажаль, мы гэтага пакуль што ня маем. Недастача, а часамі поўная адсутнасьць патрэбных для сельскай гаспадаркі Беларусі матар'ялаў заўважаецца ўсімі, хто падыходзіць да яе, як практык, ці дасьледчык-вучоны. З прычыны гэтага мы, амаль што ва ўсіх працах па сельскай гаспадарцы Беларусі, пакуль што маем не зусім грунтоўныя погляды на істоту адбываўшыхся і адбываючыхся зьмен у гэтай гаспадарцы, а ў сувязі з гэтым ня маем выразна і навукова высьветленага шляху яе далейшага разьвіцьця. Урэшце найважнейшыя пытаньні зямельнай і сельска-гаспадарчай політыкі ў Беларусі больш грунтуюцца на інтуіцыі, чым на адпаведных, лічбамі высветленых і падкрэсьленых ведах.

З гэтакім станам ні ў якім разе не магчыма пагадзіцца, асабліва цяпер, калі распачалася вялікая перабудова сельскай гаспадаркі, калі мы стаім на парозе запраўднай экономічнай рэволюцыі ў вёсцы. Апошняя ўжо вымагае не агульна тэорэтычных ведаў, атрыманых з назіраньня і сыстэматызацыі іншай практыкі і нашага жыцьця,—вёска патрабуе конкрэтных адказаў на конкрэтныя практычныя пытаньні, высунутыя пачаўшымся процэсам перабудовы яе сельскай гаспадаркі. Зразумела, што гэтыя адказы магчыма даць без памылкі толькі тагды, калі мы будзем мець добра апрацаваную **тэорыю разьвіцьця нашае сельскае гаспадаркі**, калі мы пабудуем **мясцовую беларускую с.-г. экономію**. Толькі апіраючыся на яе тэорыю мы безпамылкова будзем сваёй зямельнай і с.-г. політыкай дапамагаць росквіту нашай сельскай гаспадаркі. Ажыцьцяўленьне гэтай мэты стаіць за межамі бліжэйшых трох-пяцёх год, бо для яе патрэбна сабраць і апрацаваць вялікі стары статыстычны матар'ял а таксама зрабіць шэраг дадатковых спэцыяльных досьледаў.

У поўнай згодзе з такім поглядам аддзел с.-г. экономіі НКЗ спачатку сваёй сталай працы (вясна 1923 г.) адным з галоўнейшых сваіх заданьняў паставіў зьбіраньне і апрацоўку старых матар'ялаў, высьвятляючых тэй ці іншы бок нашай сельскай гаспадаркі. Праца гэта надта цяжкая з прычыны таго, што тут на Беларусі мы маем дужа мала гэтых матар'ялаў, а калі маем, дык толькі выпадковыя часткі, і толькі дзякуючы таму, што ў свой час (1922 г.) па заданьню і за сродкі НКЗБ сябры **Беларускай культурна-навуковай асоцыяцыі студэнтаў Ц. с.-г. Акадэміі** пад кіраваньнем проф. М. П. Аганоўскага распачалі зьбіраньне розных ста-

тыстычных матар'ялаў па Беларусі, якія потым у большасьці былі перададзены аддзелу с.-г. экономіі НКЗБ—апошні мае магчымасьць хоця часткова здзейсьніць сваю мэту.

Першым выпускам аддзел дае гэту працу агрономаў-экономістых Ждановіча С. А. і Ярашчука А. Л. Усе матар'ялы імі сабраны ў Маскве ў 1922-23 г. У сырым выглядзе яны паступілі ў аддзел у 1924 г, дзе паволі распрацоўваліся на працягу больш году. Пры чым непасрэднае кіраваньне ўсёй працай належыць агроному-экономісту аддзела Ждановічу С. А.; ім таксама напісаны ўвесь артыкул: „Характэрыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі па даных чугуначнай перавозкі".

Спыняючыся на самай працы, мусім адзначыць 1) **выданьне яе першай тлумачыцца незалежнасьцю матар'ялаў ад адміністрацыйных межаў і раёнаваньня Беларусі.** Зьмены ў адміністрацыйных межах, якія адбываліся, і пакуль што адбываюцца, а таксама адсутнасьць дакладнага інтэгральнага с.-г. раёнаваньня Беларусі не даюць пакуль што магчымасьці сыстэмазаваць і ўлажыць іншыя матар'ялы, выданьне якіх тым самым адсоўваецца на далейшы час.

2) Беларусь узята ў этнографічных межах таму, што ў сучасную БССР заходзяць адрогі тыпаў і форм сельскай гаспадаркі, якія ляжаць за яе межамі. Вызначыць і зразумець гэтыя адрогі магчыма толькі шляхам захвату ў круг вывучэньня тэрыторыі ўсёй этнографічнай Беларусі. Але паколькі праца павінна адказваць практычным пытаньням сучаснасьці, у ёй разам з падагульваньнем лічб на тэрыторыі этнографічнай Беларусі, зроблена падагульваньне і па тэрыторыі БССР (22 паветаў).

3) Праца складаецца з дзьвёх частак: тэксту і табліц. Найбольшая ўвага пры апрацоўцы зьвернута на табліцы. Шэраг розных пытаньняў бягучай с.-г. палітыкі НКЗ не дазваляў больш стала і дасканала апрацаваць артыкул і зрабіць поўны аналіз усіх дадзеных у табліцах лічбаў. Таму трэба чакаць, што артыкул у некаторых мясцох магчыма выклікае спрэчкі, асабліва ў частцы ацэнкі і тлумачэньня аўтарам тых ці іншых момантаў эволюцыі. Але крытыку вынікаў, да якіх прыходзіць аўтар артыкулу, можна лічыць сур'ёзнай толькі ў выпадку прыцягненьня новых матар'ялаў або лепшага тлумачэньня дадзеных у гэтай працы. Трэба толькі жадаць гэтай крытыкі.

Урэшце аддзел спадзяецца, што гэта праца хоць часткаю запоўніць прабел у нашых небагатых ведах аб сельскай гаспадарцы Беларусі і дасьць магчымасьць больш грунтоўнага да яе падыходу, як з боку спэцыялістага-практыка, так і дасьледчыка-вучонага.

Кастрычнік
1925 г.

**Загадчык аддзелу с.-г. экономіі**
**Я. КІСЬЛЯКОЎ.**

# ХАРАКТЭРЫСТЫКА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАРУСІ

## на падставе даных аб чугуначнай перавозцы.

I.

Мэтай гэтай працы зьяўляецца вывучэньне тых зьмен, якія адбыліся ў сельскай гаспадарцы Беларусі, галоўным чынам у пэрыод з 1900 да 1913 г. І толькі часткаю мы спынімся на тых зьменах, якія адбываліся да 1900 г.

Пэрыод 1900-1913 г. г. узяты намі папершае затым, што за гэты час маецца больш поўная і падрабязная статыстыка чугуначнай перавозкі, а падругое, затым, што передваенны пэрыод XX стагодзьдзя, уплывам спрыяючай кон'юнктуры, характэры заваўся павышаным тэмпам разьвіцьця сельскае гаспадаркі; загэтым, тэдэнцыі гаспадарчага разьвіцьця таго ці іншага раёну ў гэты пэрыод маглі выявіцца найбольш выразна. Акром таго, у гэты пэрыод умовы сувязі сельскай гаспадаркі Беларусі з рынкам мала зьмяняліся, бо пабудова галоўных чугунак у межах Беларусі была закончана да 1900 году.

Наша цікавасьць да матэр'ялаў чугуначнай перавозкі грунтуецца, папершае, на высокай точнасьці гэтых матэр'ялаў, падругое, на тым, што яны характэрызуюць найбольш важны бок гаспадаркі— яе сувязь з рынкам. Чугуначныя перавозкі, як вынік гаспадаркі, зьяўляюцца фокуснай адзнакай для характэрыстыкі гаспадаркі таго ці іншага раёну. З другога боку чугуначныя перавозкі даюць магчымасьць рабіць параўнаньні мінулага сельскае гаспадаркі з яе сучасным станам, ня гледзячы на зьмены адміністрацыйных меж (якія часта бываюць штучнымі), бо даныя чугуначнай перавозкі да іх не прыстасоўваюцца.

Беларусь узята намі ў этнаграфічных межах, гэта значыць у складзе быўш. шасьцё губ.—Смаленскай, Віцебскай, Магілеўскай (разам з чатырмя паветамі Чарнігаўскай), Менскай, Віленскай і Горадзенскай. Беларусь у памяненых межах (63 паветы) займае па вылічэньням Стральбіцкага (1897 г.) плошчу ў 294,065,0 кв. вёрст. Насельніцтва па перапісі 1897 г. мела 10778 тыс. чалавек; з іх 89% было сельскага і 11% гарадзкога. Зьмены, што адбыліся ў сельскай гаспадарцы такога аграмаднага раёну, які знаходзіцца ў асяродку Эўропы, на стыку розных гаспадарчых тыпаў,-маюць глыбокую цікавасьць, асабліва калі прыняць пад увагу зусім слабую яго вывучанасьць.

II.

### КОН'ЮНКТУРА РЫНКУ.

Зьмены ў сельскай гаспадарцы таго ці іншага раёну, іхні характар і тэмп залежаць з аднаго боку ад прыродных умоў, з другога боку—ад узроўню гаспадарчага разьвіцьця даннага раёну, так кажучы, ад яе гістарычнага мінулага, а таксама ад кон'юнктуры сусьветнага рынку, паколькі той ці іншы раён у большай ці меншай меры ўцягнуты ў тавараварот сусьветнай гаспадаркі. Пры гэтым, чым большую сувязь мае гаспадарка з рынкам, тым большы ўплыў на зьмены ў ёй робяць кон'юнктуральн. фактары; яны зьяўляюцца ініцыятыўнымі, як найбольш зьменныя і рухавыя. У далейшым мы заўважым, што разьвіцьцё сельскае гаспадаркі Беларусі залежыць галоўным чынам ад замежнага рынку (пад замежным рынкам усюды будзем разумець рынак па-за межамі даннага раёну). Загэтым, аб зьменах у сельскай гаспадарцы Беларусі мы будзем рабіць вывады па зьмене яе рыначнай сувязі. Прычыны зьмен рыначнасьці мы будзем шукаць у зьменах цаны, якая зьяўляецца ня толькі баромэтрам, але і рэгулятарам гаспадарчага жыцьця.

Зьмена таварных цэн зьмяшчае ў сабе дзьве проблемы: 1) проблему зьмен у менавых адносінах між грашмі і ўсімі гаспад. вартасьцямі, проблему ўсеагульнага ўздаражаньня і 2) проблему зьмен ва ўзаемных менавых адносінах між асобнымі гаспадарчымі вартасьцямі. Нас будзе цікавіць галоўным чынам другая проблема.

Перадваенны пэрыод XX веку характарызуецца ростам таварных цэн на сусьветным рынку.

**Рух таварных цэн (агульны Індэкс) *)**

| *(Сярэднія цэны за пэрыод 1890—99 г.г. 100%)* | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Гады | Паўн.-Ам. Злуч. Шт. | Ангельшчына. | Францыя | Нямеччына |
| 1900—04 | 111,7 | 107,2 | 105,8 | 108,0 |
| 1905—09 | 123,4 | 116,0 | 110,9 | 122,5 |

Аналёгічнае-ж мы назіраем і ў Расіі.

**Зьмена цэн у Расіі **)**

| *(Сярэднія цэны за пэрыод 1890—99 г.г. 100%)* | | | |
|---|---|---|---|
| Гады: | Па ўсіх таварах | Па збажжавых продуктах | Па продуктах жывелагадоўлі |
| 1900—4 | 111,2 | 105,9 | 119,7 |
| 1905—9 | 125,1 | 134,4 | 142,8 |
| 1910—14 | 136,4 | 131,5 | 157,9 |

Цэны на продукты жывёлагадоўлі ўзрасьлі значэна больш, чым на збожжавыя продукты.

З продуктаў жывёлагадоўлі найбольшы рост выявілі мясныя продукты:

| Гады. | Мяса чаркаск. ў Ленінградзе | Мяса сьвінное ў Маскве | Масла кароўе сьвеж. з нагрэт. сьмятаны Валаг. у Маскве |
|---|---|---|---|
| 1900—4 | 107,7 | 112,7 | 106,5 |
| 1905—9 | 131,0 | 141,4 | 117,2 |
| 1910—14 | 150,1 | 155,8 | 126,3 |

Пад уплывам гэтай спрыяючай кон'юнктуры назіраўся павышаны тэмп разьвіцьця сельскай гаспадаркі Расіі перад вайной.

„Прычыны апошняга сусьветнага павышэньня цэн, якое пачалося з 1894-96 г.г, экономічная навука тлумачыць часткаю зьніжэньнем каштоўнасьці грошай, але галоўным чынам зьменай ўнутранай будовы сусьветнай гаспадаркі, ростам попыту (спросу), ростам індывідуалізму і гарадоў, разьвіцьцём унутраных нацыянальных рынкаў асобных краін, скарачэньнем нечапаных сельска-гаспадарчых тэрыторый і пераходам сельскае гаспадаркі да больш інтэнсыўных форм продукцыі". **)

Зьмена цэн нарэшце вызначаецца адносінамі між попытам і прадлажэньнем, велічыня якіх у сваю чаргу вызначаецца безьлічам узаемназьвязаных фактараў сусьветнага рынку. У нашу задачу ня можа ўвайці аналіз гэтых фактараў, загэтым мы ня будзем выдзельваць з іх ініцыятыў-

*) Мукасееў. Павышэньне таварных цэн. стар. 8—9 Спб 1914 г.

**) Зводка таварных цэн.

***) Проф. Н. Д. Кондратьев „Рынок хлебов и его регулирование во время войны и революции" стр. 33. Москва 1922 г.

нейшых і галоўнейшых, мы толькі адзначым пачатковыя факты. Ход разьвіцьця сусьветнай капіталістычнай гаспадаркі давёў у 70-х гадох мінулага стагодзьдзя да вялізарнага павялічэньня сельска-гаспадарчай продукцыі заакіянскіх краін. Конкурэнцыяй гэтых краін быў выкліканы крызіс сельскае гаспадаркі Эўропы. Яна з зярнавое пачала перабудоўвацца ў інтэнсыўна-жывёлаводную. Далейшы ход капіталістычнага разьвіцьця сусьветнае гаспадаркі давёў да індустрыялізацыі Паўночнай Амэрыкі, а значыць і да паслабленьня конкурэнцыі продуктаў сельскае гаспадаркі заакіянскіх краін на Эўрапейскім рынку. У сувязі з гэтым падвысіліся цэны і стварылі для сельскае гаспадаркі Эўропы ўмовы ня толькі для паслабленьня крызісу, а нават і для далейшага разьвіцьця самое гаспадаркі. Стварыліся прадпасылкі, папершае, для некаторай зернавой рэакцыі, падругое, для інтэнсіфікацыі гаспадаркі, што павяло да скарачэньня экстэнсыўнай жывёлагадоўлі. З другога боку, рост гарадоў выклікаў павялічэньне спросу на продукты жывёлагадоўлі; загэтым рост цэн на гэтыя продукты і ў першую чаргу на мясныя зьяўляўся такім інтэнсыўным і сталым.

Вось якая наогул кон'юнктура сусьветнага рынку ў канцы мінулага і ў пачатку цяперашняга стагодзьдзя на продукты сельскае гаспадаркі. Рэакцыя на яе асобных раёнаў павінна была быць рознай у залежнасьці ад узроўня гаспадарчага разьвіцьця гэтых раёнаў.

Узаемадзеяньне цэн сусьветнага рынку з організацыйным ладам гаспадаркі даннага раёну павінна найці сваё выяўленьне ў мясцовых цэнах. Загэтым, перш чым рабіць аналіз узроўня разьвіцьця сельскай гаспадаркі Беларусі да пачатку XX стагодзьдзя, коратка спынімся на характэрыстыцы мясцовых цэн. Для ўпрашчэньня задачы возьмем цэны толькі на галоўныя продукты, якія мелі рынкавае значэньне ў гаспадарцы Беларусі. Паколькі ўмовы ўтварэньня мясцовых цэн на продукты збожжавых культур, тэхнічных і продукты жывёлагадоўлі розныя, разгледзім іх паасобку. Па вышыні цэн на зернавыя культуры Беларусь займала прамежнае палажэньне паміж вытвараючай і спажываючай паласою Расіі.

**Сярэднія асеньнія цэны ў кап. за пуд.**

| Раёны | ЖЫТА | | АВЁС | | ЯЧМЕНЬ | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1891—900 | 1901—10 | 1891—900 | 1901—10 | 1891—900 | 1901—10 |
| Беларусь . . | 67 | 82 | 54 | 68 | 62 | 77 |
| Нечарн. паласа | 73 | 89 | 56 | 71 | 68 | 83 |
| Эўрап. Расіі . | 65 | 79 | 52 | 66 | 59 | 70 |

Удзельная вага збожжавых расьлін у сельскай гаспадарцы Беларусі была меншай, чым у вытвараючай паласе Расіі і большай, чым у спажываючай. Тэмп-жа росту цэн у нас быў сільнейшы, чым у другіх раёнах. Цэны на зернавыя культуры ў Беларусі як бы імкнуліся дагнаць цэны спажываючай паласы.

З асобных збожжавых культур у сярэднім на Беларусі з 1890-900 да 1901-10 г.г. больш за ўсё ўзрасьлі цэны на авёс—27%, затым ідзе ячмень—23,7% і жыта—22,3%. Мяйсцовыя цэны на продукты тэхнічных культур, як продукты выключна замежна-рынкачныя, складаліся пераважна пад уплывам цэн сусьветнага рынку. Павышэньне цэн сусьветнага рынку на лён у першую чаргу павінна было адбіцца на павышэньні мясцовых цэн у раёнах разводзячых лён. Цэны на льнянае валакно 1901-10 г. параўнаўча з цэнамі 1881-900 г. падвысіліся у Магілеўскай на 37%, у Смаленскай на 26%, у Віцебскай на 20%, у Менскай на 23%. у Віленскай 10%, у Горадзенскай-жа губэрні цэны зьнізіліся на 9%. У далейшым мы ўбачым, што найбольшы рост вывазу лёну з 1900

па 1913 г. быў з Магілеўскай губ., затым Смаленскай. Што ж датычыць іншых губ., то яны зьменшылі вываз лёну. Цэны на льнянае семя заканамерна павышаюцца з захаду на ўсход, гэта значыць, па меры пераходу да больш льнаводных раёнаў. У 1901-10 г. цэны на льнянае семя былі ў капейках за пуд Горадзенскай—139. Менскай—135, Віленскай—141, Магілеўскай—147, Смаленскай—152, Віцебскай—159.

Адносная расцэнка пянькі ў 1901-10 г. параўнаўча з 1881-900 г. зьнізілася ва ўсіх раёнах, і мы ўбачым усюды скарачэньне вывазу пянькі.

Ужо адзначвалася, што па сусьветным рынку ў першае дзесяцёх-годзьдзе XX стагодзьдзя цэны на мясныя продукты ўзрасьлі значна больш, чым на збожжавыя, адзначваліся часткаю і прычыны гэтага. Мясцовыя цэны на продукты жывёлагадоўлі 1901-10 параўнаўча з цэнамі 1891-1900 г. таксама ўзрасьлі значна больш чым цэны на збожжавыя; за гэты пэрыод процант росту цэн на мяса і сьвініну 36-38, на збожжавых 22-27.

Калі па вышыні цэн на збожжавыя Беларусь займала прамежнае палажэньне паміж вытвараючай і спажываючай паласою Расіі, то цэны на мясныя продукты ў Беларусі былі найбольш высокія, прыбліжаючыяся да цэн Прывісьленскіх губ.

**Сярэднія асеньнія цэны на мясныя продукты (у кап. за пуд.)**

| Раёны | Ялавічна | | Сьвініна | | Сьвіное сала | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1891—900 | 1901—10 | 1891—900 | 1901—10 | 1891—900 | 1901—10 |
| Прывісл. губ. | 387 | 475 | 501 | 611 | 752 | 874 |
| Беларусь | 271 | 372 | 368 | 495 | 663 | 829 |
| Нечарн. пал. | 268 | 368 | 368 | 489 | 555 | 715 |
| Эўрап. Расія | 260 | 358 | 331 | 445 | 561 | 719 |

У асобных беларускіх губэрнях найбольш высокія цэны былі ў Горадзенскай Віленскай, найбольш ніжкія былі ў Магілеўскай. Цэны расьлі па меры прыбліжэньня да раёнаў збыту, бо галоўнейшымі рынкамі збыту для мясных продуктаў Беларусі зьяўляліся: Варшава, Беласток, Вільня. Тэмп росту цэн на мясныя продукты, асабліва на сьвініну, у Беларусі быў большы, чым у другіх раёнах Эўропейскай Расіі. Цэны Беларусі як-бы імкнуліся дагнаць цэны Прывісьленскага краю. Наадварот, адносна росту цэн на масла мы адставалі ад другіх раёнаў. Цэны на рускаеператопленае масла 1901-10 г. параўнаўча з 1891-1900 г. павялічыліся ў Беларусі на 20,3%, Прывісьленскім краю на 24,0%, нечарназемнай паласе—26,8%, Эўрапейскай Расіі на 26,4%.

III.

### Стопня інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі Беларусі.

Так складаліся мясцовыя цэны на галоўнейшыя продукты с. г. у Беларусі ў канцы XIX і пачатку стагодзьдзя, зьяўляючыся з аднаго боку паказальнікам організацыйнай будовы гаспадаркі, з другога боку робячы ўплыў на гэту будову. Цяпер коратка спынімся на характэрыстыцы ўзроўню разьвіцьця с. г. Беларусі ў канцы XIX стагодзьдзя. Для гэтага скарыстаем найбольш глыбокую, па нашай думцы, характэрыстыку сельскай гаспадаркі Расіі па асобным раёнам, зробленую А. Н. Чалінцавым у яго працы „Сельска-гаспадарчы раён Эўропейскай Расіі, як стадыі сельска-гаспадарчай эволюцыі".

Для выяўленьня ўзроўню інтэнсыўнасьці ў сярэднім па шасьцёх беларускіх губ., Чалінцаў палажыў у аснову такія

паказальнікі: шчыльнасьць на 1 кв. вярсту па перапісу 1897 г.—38 чал, шчыльнасьць ня лічачы лесу і няўдобных зямель—74 чал.; % земляробчага жыхарства—73,5%; % аблогі ў 1887—11, 1%; % пахаці пад папарам у 1887 г.—28; адносіны засеўнай плошчы да плошчы зімовых 2,16; плошча траў у 1881 г.—0,4%; у 1901 г.—2,1%, % бульбы да агульнай засеўнай плошчы ў 1903-07 г.—9,7; лёну і канапель—4,1; % прыватнаўладарчых гаспадарак з шматпольем—92; буйнае рагатае жывёлы на 100 дз. засеву ў 1900 г.—70; на 100 чал. сельскага жыхарства прыходзілася авец у 1906 г.—28 штук; буйнае рагатае жывёлы больш, чым сьвіней—у 1,9 разы.

Такім чынам, у канцы XIX стагодзьдзя так званай „трохпалёўкі" у чыстым відзе ня было. Праўда гэта адносіцца пераважна да прыватнаўладарчых гаспадарак.

Кладучы ў аснову клясыфікацыі сыстэм гаспадарак наступны генетычны склад адзнак: 1) спосаб падтрыманьня пладародзьдзя, зьмены якога зьвязаны з 2) зьменамі ў долі пахаці адносна прыродных кармовых угодзьдзяў, і ў скарыстаньні пахаці і 3) з станам, роляю і экономічнай формай нерабочай жывёлагадоўлі, **усе беларускія губэрні Чалінцаў характэрызуе, як папарна-травапольныя-многа-клубня-плодныя, многажывёльныя-многасьвінныя-малаавечныя.** *) Характэрна, што сыстэма гаспадаркі па ўсіх беларускіх губэрнях аднолькава. Толькі адносна тэхнічнай структуры, па прыродных умовах Беларусь можна разьдзяліць на дзьве выразна адменныя адна ад другое часткі: а) паўночна-ўсходнюю-ільняную і б) паўднёва-заходнюю-бульбяную.

Як стаячую між папарнай і вольнай (лічачы пладазьменную сыстэму найбольш інтэнсыўнай адменнасьцю травапольля), травапольная сыстэма па Чалінцаву характэрызуецца наступнымі адзнакамі.

З ходам эволюцыі пахаць скарыстоўваецца, патрабуючы ўсё большую колькасьць працы, гэта значыць доля чыстага папару можа скарачацца, а галоўнае—поруч з пануючымі збожжавымі культурамі ўводзяцца больш працаёмкія, напрыклад, валакністыя расьліны і асабліва клубень-корняплоды. Неабходнасьць у дастатковым сыстэматычным угнаеньні, а галоўнае патрэба ў павышэньні працаёмкасьці ўсяе гаспадаркі прыводзіць да кармавое продукцыі на палёх і ўтрыманьню рабочае жывёлы ў такіх разьмерах, якія ўсё больш і больш перавышаюць уласныя патрэбы гаспадароў. Продукцыйная жывёлагадоўля нават у спажывецкі яе формах робіцца ўсё больш інтэнсыўнай і вытворчай, напрыклад, больш малочнай і ў далейшым яна ўзрастае да збыту продуктаў жывёлагадоўлі на рынак, а значыць і да іншых экономічных форм: малочная буйная рагатая жывёла, з вырабам масла і сыру, а таксама з стойлавым, і больш клапатлівым узрашчваньнем маладняку; выкарм буйнае рагатае скаціны (з самага пачатку выбракоўкі) кармамі атрыманымі з поля; выпойваньне цялят на мяса; палепшаны выкарм сьвіней. Больш важная, чым раней, роля продукцыйнай жывёлагадоўлі з ходам эволюцыі становіцца яшчэ важнейшаю; прычым, чым далей, тым прыстойней і выгадней становіцца малочная жывёлагадоўля са збытам сьвежага малака і больш інтэнсыўны напрамак жывёлагадоўлі; пры гэтым узрашчваньне маладняку ў сябе заменьваецца ўсё часьцей рамонтам, купляньнем; у гаспадарцы ўсё часьцей зьяўляецца пташніцтва роля выпаснога кармленьня зьмяншаецца, заменяючыся стойлавым на працягу большага тэрміну ў гаду; кармовыя і палявыя культуры становяцца працаёмкімі і на большай плошчы, што вызначаецца, напрыклад, зьмяншэньнем валакністых расьлін замест павялічэньня продукцыйнай жывёлагадоўлі ці таксама дапаўненьнем да травяных кармовых яшчэ корань-клубняплодных кармовых; з цягам часу становіцца ўсё больш лёгкім лепшае чаргаваньне расьлін. Пры больш значнай долі асыпных, галоўнае корань-клубняплодных, травапольная гаспадарка набывае від і назву плодазьменнай, але пры некаторых умовах, напрыклад, пры цераспалосным распалажэньні яе тэрыторыі трудавая гаспадарка можа захаваць надворнасьць папарнай, напрыклад, трохпалёвую разьбіўку палёў. Надворная розьніца гэтай трохпалёўкі ад папарнай трохпалёўкі, акром дасканальнай тэхнікі, якая адпаведае зьяўляецца ў больш інтэнсыўным умовам існаваньня, к разьмеркаваньні культур, што уласьціва больш пладазьменнай гаспадарцы і больш разьвітая інтэнсыўная-продукцыйная

*) Курсыў наш (С. Ж.)

жывёлагадоўля*).

Такім чынам, сельская гаспадарка Беларусі па ўзроўню свайго разьвіцьця ў канцы XIX і пачатку XX стагодзьдзя ўжо мела нахіл да разьвіцьця працаёмкіх тэхнічных культур, як бульба, лён, а таксама інтэнсыўнай продукцыйнай жывёлагадоўлі (мясное і малочнае). Высокая рыначная кон'юнктура пачатку XX стагодзьдзя на гэтыя продукты фарсіравала зьмены сельскай гаспадаркі Беларусі ў паказаным напрамку.

## IX.

## ЗБОЖЖАВЫЯ КУЛЬТУРЫ.

Перайдзем да аналізу гэтых зьмен. Зьмены ў самай сельскай гаспадарцы лепш за ўсё адабьюцца ў зьменах яе рыначных лішкаў, пад якімі будзе ўмоўна разумецца сума пастанцыйных чыстых лішкаў. Параўнаньне-ж рыначных лішкаў з чыстым вывазам—увозам дасьць магчымасьць выявіць удзельную значымасьць унутрыраённага і замежнага рынкаў.

Чысты вываз (+) ці ўвоз (—) усіх зярновых (у тыс. пуд.)

| Губэрні | 1875 г. | 1900-2 г. | 1911-13 г. г. |
|---|---|---|---|
| Горадзенская . | +2954 | —3702 | —4673 |
| Віленская . . | —135 | —4741 | —5146 |
| Менская . . . | +1111 | —1615 | —3186 |
| Магілеўская . | —415 | —1696 | —3967 |
| Віцебская . . | +99 | —5853 | —6588 |
| Смаленская . | —1854 | —3835 | —6833 |
| Усяго па Беларусі . . | +1760 | —21442 | —30393 |
| Па 22 паветах Б. С. С. Р. . . | —19 | —4132 | —6079 |

У 1875 г. перавага ўвозу над вывазам збожжа была ў Смаленскай, Магілеўскай і Віленскай губ., прычым увоз у Віленскую і Магілеўскую губ. быў зусім нязначны. У 80—90 г. г. XIX стагодзьдзя адбываецца крызыс зернавое гаспадаркі Беларусі. У 1875 г. па Беларусі цалкам пераважвае вываз над увозам на 1,7 міл. пуд., у 1900—2 г. наадварот, ужо ўвоз пераважвае над вывазам на 21,5 міл. пудоў. Зьмена вывазу ўвозам у гэты пэрыод найбольш рэзка адбылася ў Горадзенскай, Віленскай і Віцебскай губ. Крызыс зернавое гаспадаркі ішоў як бы з заходу на ўсход. З 1900—2 г. да 1911—13 г. мы мелі далейшы рост увозу, хоць тэмп яго быў аслаблены. Пры чым увоз расьце ўжо хутчэй у тых губэрнях, дзе да 1900—2 г. ён быў слабей, гэта значыць у Магілеўскай, Смаленскай і Менскай губ. Рост цэн на збожжа ў XX стагодзьдзі з аднаго боку, патрэбы інтэнсыўнае жывёлагадоўлі з другога боку, стваралі большую магчымасьць для зернавой рэакцыі ў тых раёнах, якія раней другіх перажылі крызыс зернавое гаспадаркі.

Зьмены ўдзельнае вагі збожжавых расьлін у сельскай гаспадарцы Беларусі можна будзе выразьней дасьледваць на асобных культурах, бо ў агульны падрахунак зярновых уваходзяць і такія культуры, якія па прыродных умовах Беларусі мала пашыраны. Увоз такіх культур, як пшаніца, проса, кукуруза ў агульным ліку зярновых зацямняе значэньне мясцовых культур. Загэтым, спынімся на зьменах увоза і вываза і рыначных лішкаў галоўных збожжавых расьлін Беларусі.

Пачнем з жыта.

**Жыта і жытняя мука (у тыс. пуд.)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | | Рыначныя лішкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1875 г. | 1900—2 г. | 1911-13 г. | 1875 г. | 1900—2 г. | 1900—13 г. |
| Горадзенская . . | +2307 | —631 | —305 | 2307 | 409 | 642 |
| Віленская . . . . | +330 | —1940 | —1159 | 393 | 130 | 564 |
| Менская . . . . | +1453 | —124 | —15 | 1736 | 639 | 1027 |
| Магілеўская . . . | +87 | —427 | —773 | 293 | 286 | 648 |
| Віцебская . . . . | +22 | —2012 | —1890 | 390 | 1 | 55 |
| Смаленская . . . | —1857 | —1405 | —2034 | 15 | 2 | 138 |
| Усяго па Бел. . . | +2342 | —6539 | —6176 | 5134 | 1449 | 3074 |
| Па 22 пав. БССР | +523 | —821 | —417 | 1270 | 632 | 1382 |

*) А. Н. Чалінцаў. Сельска-гаспадарчыя раёны Эўрапейскай Расіі, як стадыі эволюцыі. Стар. 18-19. Спб. 1911 г.

У 1875 г. недахват жыта быў толькі ў Смаленскай губ., другія мелі лішкі. У 1900-2 ужо ўсе губ. маюць недахват. Найбольш рэзка зьмена вываза ўвозам, а таксама скарачэньне рыначных лішкаў жыта адбылося ў гэты пэрыод у Заходняй частцы Беларусі. Па меры зьніжэньня ўдзельнай вагі жыта, губэрні стаяць у такім парадку: Горадзенская, Менская, Віленская, Віцебская, Магілеўская і Смаленская. 1911-13 г. параўнаўча з 1900-2 г. дае рост рыначных лішкаў жыта ва ўсіх губэрнях. Найбольшы рост адбываецца ў заходняй частцы, якая скарачае нават выаз. Неабходна адзначыць, што мясцовыя цэны на жыта знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад разьмераў рынычных лішкаў. Мясцовыя асеньнія цэны на жыта ў сярэднім за пэрыод 1901-10 г. былі ў Менскай—77 кап. за пуд, у Магілеўскай—79, Горадзенскай—80, Віленскай—82, Віцебскай—87 і Смаленскай—88 кап. Менская губ. з найбольшым разьмерам рынычных лішкаў дае і больш нізкую цану. Смаленская і Віцебская губ. з меншымі рынычнымі лішкамі характэрызуюцца і больш высокімі цэнамі.

У 1875 г. усе раёны за выключэньнем Смаленскай губ. і Палесься мелі рынычныя лішкі жыта. Больш усяго іх было ў Горадзенскай губ. (гл. картограму № 1).

У 1900-02 г. лішкі былі ў паўночнай Магілеўшчыне, Менска-Навагрудзка-Слуцкім раёне і Горадзеншчыне (гл. картограму № 2).

У 1911-13 г. значны рост рынычных лішкаў дае паўночная Магілеўшчына і Менска-Слуцка-Навагрудзкі раён, выдзяляецца таксама Вілейска-Дзісенскі раён Віленшчыны (гл. картограму № 3).

Зусім іншы малюнак дае галоўнейшая расьліна яравога кліну—**авёс.**

| Губэрні | Выва́з (+) ці ўвоз (—) | | | Рынычныя лішкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1875 г. | 1900—2 г. | 1911—13 г. | 1875 г. | 1900—2 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская | +385 | —900 | —1641 | 415 | 3 | 7 |
| Віленская . . | +51 | —423 | —1178 | 142 | 143 | 61 |
| Менская . . | +99 | —100 | —929 | 136 | 184 | 48 |
| Магілеўская . | +308 | +438 | —323 | 368 | 472 | 92 |
| Віцебская . . | +442 | +13 | —938 | 464 | 172 | 59 |
| Смаленская . | +1048 | +462 | —643 | 1053 | 501 | 52 |
| Усяго па Бел | +2333 | —519 | —5652 | 2578 | 1475 | 319 |
| Па 22 паветы | +800 | +562 | —825 | 836 | 805 | 182 |

У 1875 г. усе раёны Беларусі мелі лішкі аўса, якія па Беларусі ў цэлым складалі 2,6 міл. пуд. Найбольшыя лішкі былі ў Смаленскай г.

У 1900-02 г. значныя лішкі засталіся толькі ў Смаленскай іі Магілеўскай губ.; у Віцебскай яны был ўжо нязначнымі, рэшта-ж губэрняў увозілі авёс. У 1911-13 г.г. усе губэрні пачалі ўвозіць авёс, пры чым разьмеры ўвозу былі вельмі значныя. Таксама, як і з жытам, назіраецца супадзеньне вышыні мясцовых цэн з разьмерамі рынычных лішкаў. Сярэднія асеньнія цэны на авёс у 1901-10 г. былі ў Горадзенскай губ. 80 кап. за пуд, у Віленскай—76 кап., Менскай—68, Віцебскай—68, Магілеўскай—59 к. і Смаленскай—61 к. Магілеўская і Смаленская губ. з большымі рынычнымі лішкамі аўса характэрызуюцца і больш нізкімі цэнамі. Горадзенская-ж і Віцебская губ. з меншымі лішкамі—больш высокімі цэнамі.

Лішкі аўса ў 1875 г. былі сконцэнтраваны галоўным чынам у паўчочнай

Магілеўшчыне і Смаленскай губ. (**гл. картограму** № 4).

1900-02 г. дае зьмяншэньне лішкаў, але раёны іх застаюцца тыя самыя (**гл. картограму № 5**).

У 1911-13 г. амаль усе раёны даюць малыя разьмеры мясцовых лішкаў аўса (**гл. картограму** № 6).

Такім чынам, рыначнае значэньне аўса ўсюды падала. Удзельная вага яго ў гаспадарцы зьмяншалася за лік больш інтэнсыўных культур. З яравых расьлін авёс уступаў ячменю; гэтаму спрыяла павялічэньне запасаў гною ў сувязі з агульным узростам жывёлагадоўлі і патрэбы разьвіваючайся сьвінагадоўлі.

**Ячмень (у тыс. пуд.).**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | | Рыначныя лішкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1875 г. | 1900—2 г. | 1911—13 г. | 1875 г. | 1900—2 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская | +109 | +34 | +57 | 141 | 189 | 209 |
| Віленская | —108 | —471 | —572 | 25 | 1 | 51 |
| Менская | —11 | —544 | +442 | 61 | 623 | 515 |
| Магілеўская | +1 | +32 | +40 | 14 | 20 | 100 |
| Віцебская | +286 | —790 | —279 | 328 | 4 | 27 |
| Смаленская | —1 | —161 | —159 | 13 | 1 | 54 |
| Усяго па Бел. | +276 | —876 | —471 | 582 | 838 | 956 |
| Па 22 пав. БССР | +186 | —425 | +56 | 253 | 185 | 355 |

Рыначныя лішкі ячменю на ўсёй Беларусі ўвесь час растуць. 1911-13 г. параўнаўча з 1900-2 г. дае скарачэньне ўвозу. Рост быў галоўным чынам у Менскай і Горадзенскай губ. У Віцебскай-жа губ. з 1875 г. лішкі ячменю рэзка скараціліся.

У 1875 г. лішкі ячменю былі пераважна ў Віцебскай губ. і заходняй частцы Горадзенскай. (**гл. картограму** № 7).

У 1900—2 г. лішкі былі ўжо толькі ў Горадзенскай губ. і заходняй частцы Меншчыны. (**гл. картограму** № 8).

У 1911—1913 г. яны некалькі пасунуліся зноў на паўночны ўсход (**гл. картограму № 9**).

Таксама, як і авёс, скарачалася другая экстэнсыўная зярновая культура—грэчка.

**Грэчка, грачаная мука і крупы (у тысяч. пуд.).**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя злішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1902 г. | 1911—13 г. | 1912 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская | —86 | —163 | — | 4 |
| Віленская | —116 | —139 | — | 15 |
| Менская | —6 | —112 | 51 | — |
| Магілеўская | +240 | —77 | 249 | 16 |
| Віцебская | —185 | —281 | — | — |
| Смаленская | —553 | —737 | — | — |
| Усяго па Бел. | —706 | —1509 | 300 | 35 |
| Па 22 пав. БССР | —17 | —271 | 128 | — |

У 1902 г. лішкі грэчкі былі толькі ў паўднёвай частцы Магілеўшчыны (**гл. картограму № 10**).

У 1911—13 г. лішкі грэчкі зьвяліся зусім і ў гэтым раёне (**гл. картогр. № 11**).

На падставе разьмераў рынычных лішкаў, а таксама % засеўнай плошчы за 1911—13 г. галоўнейшых яравых збожжавых (авёс, ячмень і грэчка), Беларусь можна падзяліць на такія раёны (**гл. картогр. № 12**):

А. І. **Аўсяна-ячменна-грачаны**, дзе засеўная плошча пад аўсом ад 18 да 25%, ячменем ад 5 да 11% і пад грэчкай, за выключэньнем Пружанскага павету, ад 2 да 5%.

А ІІ. **Аўсяна грачана-ячменны**-засеўная плошча пад аўсом ад 13 да 20%, грэчкай ад 5 да 10% і ячменю ад 6 да 8%.

А ІІІ. **Грачана-аўсяна-ячменны** засеўная плошча пад грэчкай ад 12 да 23%, аўсом ад 8 да 11% і ячменем ад 3 да 6%.

У другой частцы Беларусі культура грэчкі мела зусім малое значэньне—менш 2% засеўнай плошчы і менш 0,2 пуда лішку (валавы збор мінус высеў) на душу сельскага насельніцтва. Яе таксама можна падзяліць на 3 раёны.

Б І. **Ячменна-аўсяны**—плошча засеву пад ячменем ад 18 да 20%, а пад аўсом ад 15 да 18%.

Б ІІ. **Аўсяна-ячменны** плошча засеву пад аўсом ад 18 да 26%, пад ячменем ад 4 да 14%.

Б ІІІ. **Аўсяны**-плошча засеву пад аўсом 20—26%, пад ячменем-жа менш 3%.

Прыведзеныя даныя аб зьмене галоўнейшых збожжавых культур паказваюць наколькі не грунтоўна звычайная думка, што з ростам інтэнсыфікацыі гаспадаркі ўдзельная вага зярновых зьніжаецца. Мы бачым, што адначасна з ростам інтэнсыўнасьці з 1900 да 1913 г. расла рынычнасьць жыта і ячменю. Ужо было адзначана, што рост цэн на продукты сельскай гаспадаркі, у тым ліку і на збожжавыя, у XX стагодзьдзі стваралі некаторыя падставы для зярновай рэакцыі. Рост рыначнасьці жыта, як галоўнейшай спажыўнай культуры, быў зьвязан часткаю з гэтым ростам цэн. Усё-ж галоўнейшымі прычынамі росту ўдзельнае значнасьці культуры жыта адначасна з ростам інтэнсыўнасьці гаспадаркі, будуць прычыны тэхнічна-організацыйнага парадку.

З ростам інтэнсыўнае жывёлагадоўлі, асабліва мясное (выкарм на бразе), расла патрэба гаспадаркі ў подсьціле. У тых-жа раёнах, дзе значна была распаўсюджана культура бульбы, была і большая патрэба ў жытняй саломе, як у кармовым продукце (у заходняй Беларусі вялікае кармовае значэньне мела жытняя салома, як рэзка з бульбаю і мукою). Ад гэтага залежыла павышэньне мясцовага попыту на жыта, а знача ствараліся ўмовы для разьвіцьця гэтай культуры. З другога боку, для культуры жыта пашыраліся тэхнічна-організацыйныя магчымасьці ў зьвязку з прымяненьнем лубіну на зялёнае ўгнаеньне, а таксама і мінэральных угнаеньняў. Збожжавая гаспадарка Заходняе Беларусі пачынала будавацца па тыпу Нямецкай.

Характэрна, што ўвоз у Беларусь парашкоў (амаль што адных фосфарна—кіслых) прыпадае пераважна на паўночна-заходнюю частку (**гл. картогр. № 13**)

Ужо адзначалася, што ячмень, як больш інтэнсыўная яравая зярновая культура, параўнаўча з аўсом і грэчкай, пашыраўся замест апошніх, галоўным чынам з прычыны павялічэньня запасу гною ў зьвязку з агульным ростам жывёлагадоўлі, а таксама патрэбамі пашыраўшайся сьвінагадоўлі Да гэтага яшчэ неабходна дабавіць, што рост мясцовай піўное прамысловасьці ў значным стопні спрыяў разьвіцьцю культуры ячменю.

**Вываз піва з галоўнейшых асяродкаў (у тысяч. пуд.).**

| | 1902 г. | 1905 г. | 1909 г. | 1913 г. |
|---|---|---|---|---|
| Смаленск . | 346 | 576 | 800 | 965 |
| Вільня . . | 490 | 813 | 829 | 964 |
| Ліда . . . | 148 | 241 | 254 | 365 |
| Менск . . | 106 | 72 | 77 | 94 |
| Беласток . | 12 | 17 | 128 | 89 |
| Віцебск . . | 9 | 21 | 13 | 28 |
| Гомель . . | 15 | 24 | 4 | 17 |
| **Усяго** . . | 1152 | 1764 | 2105 | 2520 |

З 1902 г. да 1913 г. вываз піва павялічыўся на 116%.

Рост ячменю йшоў за кошт больш экстэнсыўных яравых зярновых, як авёс, грэчка. За кошт скарачэньня гэтых культур расьлі таксама гарох, выка (асабліва ў Віцебскай і Віленскай губ.), але галоўным чынам лён і бульба.

Так у галоўных рысах складалася організацыя збожжавых культур Беларусі. Барацьба адбывалася пераважна паміж культурамі яравога кліну, што надавала сыстэме земляробства выгляд збожжавае трохпалёўкі. Фактычна-ж гэта была папарна-травапольная сыстэма земляробства.

## V.

### Бульба і продукты яе пераробкі.

Пяройдзем цяпер да характэрыстыкі дзьвёх галоўнейшых рыначна-тэхнічных культур Беларусі — бульбы і лёну, так глыбока і па рознаму зрабіўшых уплыў на організацыйна-тэхнічную будову сельскае гаспадаркі паўночнага ўсходу і паўднёвага захаду Беларусі. Розныя па свайму гаспадарчаму значэньню і патрабаваньням ад глебы, гэтыя культуры былі зьвязаны з рознымі тыпамі гаспадарак. Папершае, лён зьяўляецца культурай пераважна сялянскай, тады, як рыначна-тэхнічная бульба ў межах Беларусі была галоўным чынам у прыватна-панскіх гаспадарках. Лён, які вельмі зьбядняе глебу, можа разьвівацца толькі адначасна з разьвіцьцём травасеву, які ўзбагачвае глебу і паляпшае яе фізычныя якасьці.

Для разьвіцьця культуры бульбы травасеў не абавязковы. Наадварот, бульба, як унівэрсальны корм, да некаторага стопня зьяўляецца конкурэнтам траў. Акром вялікага кармовага значэньня, бульба ў значным ліку вывозілася на рынак у сьвежым відзе.

**Бульба (у тысячах пуд.).**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1906 г. | 1911—13 г. | 1906 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская . | +402 | +1091 | 417 | 1150 |
| Віленская . . | —179 | +212 | 77 | 296 |
| Менская . . . | +145 | +862 | 189 | 914 |
| Магілеўская . | +567 | +724 | 633 | 765 |
| Віцебская . . | —73 | —126 | 6 | 12 |
| Смаленская . | +128 | —99 | 229 | 13 |
| Усяго па Бел. | +990 | +2664 | 1551 | 3150 |
| Па 22 пав. БССР. | +245 | +959 | 426 | 1081 |

Дынаміку мы змаглі вызначаць толькі з 1906 г., бо за ранейшы час мы ня мелі даных аб перавозках сьвежае бульбы. З 1906 да 1913 г., як чысты вываз, так і рыначныя лішкі сьвежае бульбы павялічыліся больш, чым у два разы. Лішкі расьлі за кошт росту спажыцьця мясцовых буйна-гарадзкіх цэнтраў, а таксама за кошт замежнага рынку, галоўным чынам паўдня Расіі.

Раёнамі вывазу сьвежае бульбы ў 1906 г. былі паўднёвая частка Магілеўшчыны, паўднёва-заходняя частка Горадзенскай губ., Рослаўскі і Аршанскі паветы (гл. картограму № 14).

У 1911-13 г.г. яшчэ больш выдзеліўся паўднёвы захад, акром Палесься. Смаленшчына-ж дала зьмяншэньне. (гл. картограму № 15).

Магілеўская, Менская, Горадзенская і Віленская губэрні, якія мелі найбольшыя рыначныя лішкі бульбы і продуктаў яе пераапрацоўкі, даюць і найбольш нізкія мясцовыя цэны на бульбу.

З параўнаньня картограм №№ 12, 14, 15, 16, 17, 18 і 19 можна заўважыць, што раён рыначнае бульбы зьяўляецца і раёнам распаўсюджваньня грэчкі. Гэта гаворыць за тое, што бульба Беларусі зьяўляецца галоўным чынам культурай пескавых глеб.

Падобна сьвежай бульбе і сьпірытус мае аднолькавае распаўсюджваньне, як з геаграфічнага боку, так і па разьмерах вытворчасьці.

Сьпірытус (у тыс. пуд.).

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (−) | | Рыначныя лішкі. | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911 г. | 1900—02 г. | 1911 г. |
| Горадзенская | +179 | +337 | 247 | 477 |
| Віленская | +223 | +337 | 252 | 372 |
| Менская | +611 | +1034 | 615 | 1036 |
| Магілеўская | +217 | +481 | 217 | 486 |
| Віцебская | −37 | −50 | 30 | 36 |
| Смаленская | +106 | +70 | 184 | 219 |
| Усяго па Бел. | +1299 | +2209 | 1545 | 2626 |
| Па 22 пав. БССР | +583 | +1064 | 623 | 1119 |

У сярэднім па Беларусі чысты вываз і рыначныя лішкі ад 1900 да 1011 г. павялічыліся прыблізна на 70%, па БССР на 80%. Найбольшы рост быў у Магілеўскай губ. Затым ішлі Менская, Горадзенская і Віленская. Смаленская губ. пры нязначным росьце рыначных лішкаў чысты вываз зьменшыла ад 106 да 70 тыс. пуд. Віцебская-ж губ. павялічыла ўвоз ад 37 да 50 тыс. пуд.

У 1900-02 г. браварніцтва было сконцэнтравана ў Менскай губ., Горадзенскай, паўднёвай частцы Віленшчыны, паўднёвых паветах Магілеўшчыны, Аршанскім і Рослаўскім паветах (гл. картогр. № 16).

К 1911 г. браварніцтва пашыралася ў папярэдніх раёнах і пасунулася далей у паўночную частку Віленскае губ. (гл. картограму № 17).

Некалькі іншае мы маем адносна вываза-увоза і рыначных лішкаў крухмалу.

Крухмал (у тыс. пуд.)

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (−) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—01 г. | 1913 г. | 1900—01 г. | 1913 г. |
| Горадзенская | +117 | +40 | 139 | 134 |
| Віленская | +56 | +30 | 78 | 72 |
| Менская | +74 | +37 | 140 | 211 |
| Магілеўская | +8 | +100 | 64 | 127 |
| Віцебская | −35 | −99 | — | 1 |
| Смаленская | −24 | +9 | 2 | 33 |
| Усяго па Бел. | +196 | +117 | 423 | 578 |
| Па 22 пав. БССР | +153 | +56 | 189 | 305 |

Папершае, разьмер рыначнасьці і вывазу крухмалу значна меншы, чым рыначнасьць і ўвоз сьпірытусу. Падругое, рост рыначнасьці крухмалу ад 1900 да 1913 г. значна слабей, чым сьпірытусу і сьвежае бульбы, а чысты вываз па ўсей Беларусі нават зьменшыўся. Крухмал усё ў большай частцы рэалізаваўся на мясцовым рынку. Абмяжованасьць ёмкасьці мясцовага рынку спыняла разьвіцьцё перапрацоўкі бульбы на крухмал.

Перапрацоўка бульбы на крухмал у 1900-01 г. была сконцэнтравана пераважна ў Ваўкавыскім і Слонімскім пав. Го-

радзеншчыны, у раёнах Менска, Маладзечна, Воршы. (**гл. картогр. № 18**).

У 1913 г. галоўны выраб крухмалу застаецца ў тых жа раёнах. Рост-жа мы бачым у раёнах Берасьця і Вязьмы (**гл. картогр. № 19**).

Такім чынам, бульба, як рыначна-тэхнічная культура, пашыралася галоўным чынам у паўднёва-заходняй частцы Беларусі. Глебавыя ўмовы і дастача гною спрыялі гэтаму. Прыродныя ўмовы паўднёва-заходняй часткі Беларусі ў сваю чаргу вызначылі тут характар лёнаводзтва, як культуры выключна для сваіх патрэб.

Рыначнае лёнаводзтва разводзілася ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі.

## VI ТЭХНІЧНЫЯ КУЛЬТУРЫ.

### Лён (у тысяч. пуд.)

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя цэны | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская . | +9 | —1 | 9 | — |
| Віленская . . | +137 | +135 | 141 | 135 |
| Менская . . . | +104 | +97 | 104 | 101 |
| Магілеўская . | +408 | +1178 | 414 | 1202 |
| Віцебская . . | +1473 | +1438 | 1473 | 1438 |
| Смаленская . | +1492 | +3209 | 1493 | 3215 |
| **Усяго па БССР** . | +3623 | +6056 | 3634 | 6091 |
| **Па 22 пав. Бел.** | +1192 | +1793 | 1192 | 1820 |

Перш за ўсё мы бачым, што лён разводзіўся выключна для замежнага рынку. Разьмеры рыначных лішкаў амаль што супадаюць з разьмерамі чыстага вывазу. Горадзенская, Менская і Віленская губ. даюць нязначныя рыначныя лішкі і вываз некалькі нават скарацiўшыся ў 1911-13 г.г. параўнаўча з 1900-02 г. Некаторае скарачэньне дае таксама і Віцебская губ., рыначныя лішкі ільну якой усё-ж вельмі значны.

З 1900-02 да 1911-13 г.г. найбольш экспансыўна лёнаводзтва разьвівалася ў Смаленскай губ. і паўночнай частцы Магілеўшчыны, дзе мы маем павялічэньне рыначнасьці і вывазу ў гэты пэрыод прыблізна ў два тры разы.

У Віцебскай губ. лёнаводзтва пашыраўся толькі ў Віцебскім і Гарадоцкім паветах, у другіх-жа яно скарачалася. Паўночна-заходняя частка Віцебшчыны зьяўляецца раёнам, у якім раней, як у другіх пачало разводзіцца лёнаводзтва. Загэтым адмоўныя бакі культуры лёну, як аднабакова зьбядняючай глебу, тут маглі адбіцца ў першую чаргу.

Раён гэты характэрызуецца больш нізкімі ўраджаямі ўсіх іншых культур. Ён-жа ў першую чаргу і ў большым ліку пачаў увозіць гнаёвыя парашкі. Лёнаводзтва Беларусі перад вайною ўжо да некаторага стопню дасягнула граніцы свайго экстэнсыўнага пашырэньня ў гаспадарцы за кошт іншых культур. Далей у тым-жа кірунку і тым-жа тэмпам яно разьвівацца не магло. Гаспадарка імкнулася ліквідаваць аднабокасьць лёну, шукаючы новых організацыйна-тэхнічных форм. Хутка пашыраўся травасеў, ствараючы магчымасьці для разьвіцьця малочнае жывёлагадоўлі. Рыначнае лёнаводзтва ў 1900-02 г.г. было пашырана найбольш у паўночна-ўсходніх паветах Смаленшчыны і паўночна-заходніх паветах Віцебшчыны (**гл. картограму № 20**).

Да 1911-13 г. лёнаводзтва значна разьвівалася ў Аршанска-Горацка-Красьнінскім раёне, некалькі далей пасунулася на поў-

дзень Смаленшчыны і некаторае паслабленьне было ў паўночна-заходняй частцы Віцебшчыны (гл. картогр. № 21).

Пакольні кон'юнктура на льнянае валакно перад вайной была спрыяючай, пастольні пянька, наадварот у цане зьніжалася. З пянькой на сусьветным рынку пачалі моцна конкураваць больш танныя продукты, як джут у мяшэчнай вытворчасьці, драцяны канат, манільскі шпагат.

І мы маем скарачэньне лішкаў і вывазу пянькі ва ўсіх раёнах.

**Пянька (у тысяч. пуд.).**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (−) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская | −11 | −126 | 1 | — |
| Віленская | +8 | −5 | 8 | — |
| Менская | +9 | +4 | 14 | 4 |
| Магілеўская | +746 | +536 | 804 | 740 |
| Віцебская | −2 | −12 | 1 | — |
| Смаленская | +458 | +300 | 458 | 301 |
| **Усяго па Бел.** | +1208 | +697 | 1286 | 1045 |
| **Па 22 пав. БССР** | +159 | +82 | 160 | 95 |

Рыначнае канапляводзтва было сконцэнтравана ў паўднёва-ўсходнім кутку Магілеўшчыны і Смаленшчыны (гл. картогр. № 22).

К 1911-13 г. яно яшчэ больш адышло на паўднёвы ўсход, пашыраючыся пераважна ў паветах Мглінскім, Старадубзкім, Новазыбкаўскім, Сураскім, Клімавіцкім і Рослаўскім (гл. картогр. № 23).

У гэтым канапляводным раёне была організавана і перапрацоўка пянькі, галоўным чынам на вяроўкі і канаты. Пры чым вытворчасьць гэта пашыралася.

**Вываз вяроўкі і канату з Клінцоў (у тысяч. пуд.).**

| 1901 г. | 1903 г. | 1907 г. | 1911 г. |
|---|---|---|---|
| 107 | 157 | 196 | 216 |

Акром валакна, культура лёну і канапель давалі на рынак значны лік семя.

**Семя льнянае і канаплянае (у тысяч. пуд.).**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (−) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1902—02 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская | +115 | +97 | 134 | 120 |
| Віленская | +202 | −167 | 205 | 245 |
| Менская | +234 | +153 | 353 | 256 |
| Магілеўская | +94 | +433 | 391 | 766 |
| Віцебская | +155 | +488 | 200 | 496 |
| Смаленская | −323 | −313 | 794 | 2032 |
| **Усяго па Бел.** | +486 | +691 | 2077 | 3915 |
| **Па 22 пав. БССР** | +688 | +1141 | 760 | 1180 |



Толькі каля 20% вывезенага на рынак семя вывозілася за межы Беларусі. 80% перапрацоўвалася на мясцовых маслабойных заводах.

Найбольш буйныя маслабойныя заводы былі ў Вязьме (вываз 554 тыс. пуд. масла), Рославе (321 тыс. пуд.), Новазыбкаве (112 тыс. пуд.), Віцебску (94 тыс. пуд.), Вільне (78 тыс. пуд.), Менску (68 тыс. пуд.).

Маслабойная вытворчасьць з 1900 да 1913 г. ўзрасла на 35-40%. Зразумела, што адсюль вывозіўся і другі продукт перапрацоўкі льнянага і канаплянага семя —жмыхі (Вязьма—1300 тыс. пуд., Рослаў—703 тыс. пуд., Новазыбкаў—256 тыс. пуд.)

Патрэба гаспадаркі ва ўласным семі на масла меншая, чым ва ўласным валакне, затым і рыначнасьць льнянога семя куды вышэй, чым рыначнасьць валакна. І мы бачым гэта на картограмах №№ 24 і 25.

Паўднёва-заходняя частка Беларусі, амаль не вывозячая на рынак валакна, давала ўжо значны лік льнянога семя.

Такім чынам, Беларусь па гадавой ізотэрме ў 5-6° падзялілася на дзьве часткі: паўночна-ўсходнюю льняную і паўднёва-заходнюю бульбяную. Гэтым у значным стопні па рознаму было прадрашано для кожнай вобласьці развязаньне асноўнага пытаньня гаспадаркі, пытаньня кормаздабываньня, а праз гэта і характар жывёлагадоўлі.

## VII.
## КАРМАВОЕ ПЫТАНЬНЕ.

Культура лёну, вымагаючая добрае фізычнае структуры глебы на нашых безструктурных падзолістых глебах, асабліва патрабавала шматгодніх траў, якія з аднаго боку непасрэдна паляпшаюць структуру глебы, а з другога—пашыраюць магчымасьць павялічэньня ў гаспадарцы гною. Затым найбольш лёнаводныя паветы характэрызуюцца і найбольшым распаўсюджваньнем культуры шматгодніх траў.

% засеўнай плошчы лёну і шматгодніх траў да агульнай плошчы засеву ў сялянскіх гаспадарках па даным перапісі 1916 г.

| Паветы | % лёну | % траў | Паветы | % лёну | % траў |
|---|---|---|---|---|---|
| Сычоўскі . | 31,3 | 26,8 | Люцынскі . | 13,8 | 8,0 |
| Вяземскі . | 28,0 | 12,8 | Вяліскі . . | 13,5 | 6,6 |
| Гжацкі . . | 27,3 | 12,9 | Себескі . . | 11,8 | 6,6 |
| Юхнаўскі . | 22,9 | (6,6) | Рэжыцкі . | 10,0 | 6,4 |
| Бельскі . . | 16,8 | 10,7 | Гарадоцкі . | 9,6 | (1,6) |
| Парэкці . | 16,6 | (3,3) | Віцебскі . | 7,7 | 5,0 |
| Духаўшчын. | 13,9 | 7,5 | Дрысенскі | 5,9 | 3,4 |
| Дарагабускі | 11,4 | 7,3 | Невельскі . | 5,6 | 2,4 |
| Красьнінскі | 9,2 | 5,8 | Лепельскі . | 3,4 | 1,4 |

Што ў некаторых раёнах травасеў ішоў уперадзе жывёлагадоўлі, сьведчыцца наліччам лішкаў сена ў гэтых раёнах.

Сена (у тысяч. пуд.).

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская . . | —26 | —305 | 66 | 43 |
| Віленская . . . . | —118 | —261 | 22 | — |
| Менская . . . . . | —96 | —221 | 89 | 72 |
| Магілеўская . . . | +186 | +411 | 191 | 475 |
| Віцебская . . . . | +96 | —35 | 117 | 75 |
| Смаленская . . . | +376 | +1943 | 375 | 1984 |
| Усяго па Белар. . . | +418 | +1532 | 861 | 2649 |
| Па 22 пав. БССР. . | +135 | +132 | 313 | 450 |

Лішкі сена былі ў Смаленскай і Магілеўскай губ. У гэтых-жа губэрнях з 1900 да 1913 г. мы назіралі значны рост лішкаў сена.

Усходнія паветы Смаленскай губ. з найбольш высокім процэнтам траў даюць і найбольшы вываз сена. Выдзяляецца лішкамі сена Рагачова-Рачыцкі раён, які мае шмат заліўных сенажацяй. Невялікія лішкі былі таксама і ў паўночнай Магілеўшчыне і Віцебшчыне (гл. картогр. №№ 26 і 27).

Зразумела, што ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі галоўным кормам было сена, якога было тут у лішку. Лішкі сена зьмяншалі значэньне яравой саломы, як кармовага сродку. Дзякуючы гэтаму зьмяншалася плошча аўса ў гэтай частцы Беларусі.

Амаль што выключна сенны рацыён і наліччa мясцовых жмыхаў надавалі жывёлагадоўлі малочны напрамак.

Інакшай вырашалася пытаньне здабываньня корму, а знача і характар жывёлагадоўлі ў паўднёва-заходняй частцы Беларусі. Лён тут ня мог мець значнага пашырэньня па прыродных умовах, які наадварот спрыялі разьвіцьцю бульбы. Як асыпная культура, бульба не патрабуе травасеву, які паляпшае структуру глебы. Наадварот, як унівэрсальны корм (асноўны і дапаўняючым кормам), бульба ў значнай меры зьяўляецца конкурэнтам траў. Напрыклад, у Меншчыне, дзе быў шпаркі рост культуры бульбы, процант сеяных траў да агульнай засеўнай плошчы з 3,9% у 1901 г. зьнізіўся да 3,6% у 1917 г. Зьніжэньне амаль што на 10%. У Смаленшчыне, Магілеўшчыне, Віцебшчыне травасеў за гэты пэрыод значна ўзрос.

Унівэрсальны характар бульбы, як кармовага сродку, а таксама астаткі яго тэхнічнай перапрацоўкі стварылі ў паўднёва-заходняй частцы Беларусі ўмовы для разьвіцьця мясное жывёлагадоўлі, аднача сна павялічваючы ў гаспадарцы значэньне саломы і зярна.

## VIII.

### Буйная рагатая жывёла.

Спынімся на тым, як складаўся характар жывёлагадоўлі Беларусі па асобных раёнах. Пачнем з буйнае рагатае жывёлы, якая мае найбольшае значэньне ў гаспадарцы параўнаўча з другімі відамі продукцыйнае жывёлагадоўлі. Прычынамі гэтага значэньня буйнае рагатае жывёлы зьяўляюцца разнастайнасьць продуктаў (мяса, масла, сыр, малако, скуры), непераборлівасьць яе ў корме, значная колькасьць гною.

Характар продуктаў буйнае рагатае жывёлы, якія пераважна выкідаюцца на рынак, вызначаецца экономічным палажэньнем гаспадаркі. Амаль што натуральная сялянская гаспадарка раёнаў, якія знаходзяцца далёка ад рынку, збывае забракованую жывёлу. Па меры палепшаньня экономічнага палажэньня, расьце малочная продукцыя, у першую чаргу ў найбольш экстэнсыўнай форме--масьлянай.

Па меры далейшага палепшаньня экономічнага палажэньня, масла замяняецца больш інтэнсыўнымі продуктамі малочнае гаспадаркі, як сыр, сьмятана, сьвежае малако. Аднача сна з ростам малочнай продукцыі на астатках тэхнічнай перапрацоўкі бульбы і буракоў можа расьці і выкарм рагатае жывёлы на мяса.

У Беларусі мы мелі рост усіх відаў продукцыі буйнае рагатае жывёлы.

**Буйная рагатая жывёла (штук)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (−) | | Рынaчныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Смаленская . | −281 | +2009 | 499 | 2781 |
| Віцебская . . | −23 | −1645 | 99 | 1972 |
| Магілеўская . | −2055 | −3400 | 1640 | 1261 |
| Менская . . . | +2699 | +12813 | 13615 | 18126 |
| Віленская . . | −10566 | −13228 | 2159 | 1314 |
| Горадзенская . | +19409 | +2928 | 23873 | 6464 |
| **Усяго па Бел.** . | +9183 | −523 | 41885 | 31918 |
| **Па 22 пав. БССР** | −2374 | +5028 | 9425 | 11479 |

Калі выключыць Берасьце, які ў 1900-02 г. вывез 21 тыс. штук буйнае рагатае жывёлы (безумоўна не мясцовага і не бліжэйшых раёнаў), то па ўсей Беларусі будзем мець узрост рыначных лішкаў буйнае рагатае жывёлы з 1900-02 г. да 1911-13 г. прыблізна на 50%. Рост гэты прыпадае амаль што выключна на Палесьсе, дзе былі найбольшыя рыначныя лішкі буйнае рагатае жывёлы, як у 1900-2 г., так і ў 1911-13 г. (картогр. №№ 28 і 29).

Мы ўжо адзначылі найбольшы рост цэн на мясныя продукты. У пэрыод з 1900 г. да 1913 г. адносная расцэнка мяса, якна замежным, так і на мясцовым рынку, значна ўзрасла. Дзякуючы гэтай спрыяючай агульнай для ўсіх раёнаў кон'юнктуры, узрастала і мясная продукцыя па ўсіх гэтых раёнах.

**Мяса і мясныя продукты [у тысяч. пуд.].**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (−) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Смаленская . | +44 | +105 | 53 | 116 |
| Віцебская . . | +78 | +259 | 78 | 259 |
| Магілеўская . | +24 | +89 | 29 | 91 |
| Менская . . . | +116 | +255 | 131 | 257 |
| Віленская . . | +16 | +41 | 34 | 119 |
| Горадзенская . | +34 | +63 | 63 | 99 |
| **Усяго па Бел.** . | +312 | +812 | 388 | 941 |
| **Па 22 пав. БССР** | +106 | +268 | 115 | 270 |

З 1900-02 да 1911-13 г. лішкі мяса і мясных продуктаў узрасьлі на 142%. Найбольшы рост быў у Віцебскай і Віленскай губ. У 1900-02 г. лішкі мяса і мясных продуктаў концэнтраваліся ў Палесьсі і Перадпалесьсі, паўночна-усходнім кутку Смаленшчыны і паўночна-заходняй частцы Віцебскай губ. (картогр. № 30).

К 1911-13 г. лішкі мяса ўзрасьлі асабліва ва ўсходняй частцы Віцебшчыны, ва ўсёй Віленскай губ. і Менска-Навагрудкім раёне (картогр. № 31).

Трэба лічыць, што рост мясной продукцыі буйнай рагатай жывёлы, які зьвязан з браварніцтвам, часткаю быў у прыватна-ўладарскіх гаспадарках. А ўсё-ж мяса буйнае рагатае жывёлы можна лічыць продукцыяй пераважна сялянскай, больш экситэсыўнай гаспадаркі, у той час, як рыначная малочная гаспадарка ў Беларусі была галоўным чынам у прыватна-ўладарскіх гаспадарках. Гэтым - тлумачыцца адначасны рост у адных і тых-жа раёнах мясной і малочнай рыначнай продукцыі.

Адсутнасьць у нас земскіх організацый, а загэтым і коопэрацыі і грамадзкай агрономіі не давала магчымасьці дробнай сялянскай гаспадарцы разьвіваць малочны напрамак. Агульныя-ж умовы, як рыначныя, так і ўзровень разьвіцьця гаспадаркі, прымушалі пашыраць продукцыйную жывёлагадоўлю. Сялянская гаспадарка павялічвала колькасьць буйнае рагатае жывёлы, даючы на рынак мяса. Гэтаму спрыяла таксама і больш выгадная расцэнка мяса чымся малочных продуктаў.

Зьмены адносна расцэнак мяса і масла ў сене (мясцов. цэны) можна бачыць у табліцы.

| Губэрні і раёны | Можна было купіц пудоў сена | | | | Зьмены расц. у проц. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | За пуд мяса | | За пуд масла | | | |
| | 1892-900 г. | 900—10 г. | 1882-900 г. | 901—10 г. | МЯСА | МАСЛА |
| Горадзенская | 10,3 | 13,9 | 37,8 | 44,1 | +34,9 | +16,6 |
| Віленская . . | 10,4 | 13,6 | 39,3 | 38,0 | +30,7 | —3,3 |
| Менская . . | 11,5 | 13,5 | 43,3 | 42,2 | +17,4 | —2,5 |
| Магілеўская . | 12,1 | 14,2 | 44,0 | 47,0 | +17,3 | +6,8 |
| Віцебская . . | 10,3 | 13,2 | 36,7 | 41,8 | +28,1 | +13,8 |
| Смаленская . | 11,5 | 13,7 | 43,6 | 50,3 | +19,1 | +15,3 |
| Нечарназ. паласа . . . | 11,1 | 13,1 | 41,7 | 45,7 | +10,7 | +8,1 |
| Эуроп. Расія | 10,8 | 12,3 | 41,1 | 43,0 | +13,8 | +4,6 |

Мы бачым, што ўсюды расцэнка ў сене на мяса ўзрасла значна больш чым расцэнка на масла, а таксама ў зьвязку з агульным заняпадам прыватна-ўладарскіх гаспадарак пасьля рэволюцыйных падзей 1905 г. мы бачым і больш павольны рост рыначнай малочнай продукцыі параўнаўча з мясной.

**Масла кароўе (у тысяч. пуд.)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Смаленская . | +32 | +20 | 32 | 21 |
| Віцебская . . | +17 | +41 | 27 | 41 |
| Магілеўская . | +8 | +23 | 8 | 24 |
| Менская . . . | +19 | +23 | 22 | 33 |
| Віленская . . | —12 | —29 | 7 | 21 |
| Горадзенская . | +13 | +29 | 22 | 38 |
| **Усяго па Бел.** . | +77 | +107 | 118 | 178 |
| **Па 22 пав. БССР.** | +33 | +57 | 35 | 68 |

Па ўсей Беларусі мы маем узрост рыначных лішкаў на 50%. Найбольшы рост далі Магілеўская і Віленская губ., якія ў 1900-02 г. мелі найменшыя рыначныя лішкі масла. Смаленская-ж губ., меўшая ў 1900-02 г. найбольшыя лішкі, к 1911-13 г. іх скарацiла.

У 1900-02 г. лішкі масла былі ў Смаленскай, Горадзенскай губ., паўночна-заходняй частцы Менскай, Віцебскім, Полацкім і Дзьвінскім паветах Віцебшчыны (**гл. картогр.**, № 32).

У 1911-13 г. лішкі масла ў папярэднім раёне (Духаўшчынска-Дарагабускім) Смаленскай губ. зьмяншаюцца і некалькі растуць у паўднёвай частцы і Бельскім павеце. Растуць у паўночнай Магілеўшчыне, у паўночных паветах Віцебшчыны і Вілен-

скай губ., а таксама ў Кобрынскім, Рагачоўскім і Бабруйскім паветах, як-бы пасоўваючыся ў Палесьсе (гл. картогр. № 33).

Масьляная продукцыя пашыралася ў больш экстэнсыўных раёнах; адбывалася як-бы разсейваньне яе па ўсей Беларусі.

Больш інтэнсыўныя раёны за кошт скарачэньня масла павялічвалі продукцыю другіх малочных здабыткаў, галоўным чынам сыру.

**Іншыя малочныя продукты акром сьвежага малака (у тысяч. пуд.)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Смаленская | +62 | +127 | 62 | 127 |
| Віцебская | — | +17 | 2 | 19 |
| Магілеўская | +5 | +8 | 5 | 16 |
| Менская | +28 | +78 | 39 | 101 |
| Віленская | —5 | +3 | 11 | 23 |
| Горадзенская | +40 | +51 | 47 | 59 |
| **Усяго па Белар.** | +130 | +284 | 166 | 345 |
| **Па 22 пав. БССР** | +12 | +14 | 20 | 43 |

Лішкі іх па ўсей Беларусі з 1900-02 г. да 1913 г. павялічыліся больш чым на 100%. Рост быў галоўным чынам у раёнах Навагрудкім, Дарагабускім і Дзьвінскім, г. зн. у стара-малочных і больш інтэнсыўных раёнах (картогр. № 34 і 35).

Зьмена экстэнсыўнай масьлянай продукцыі больш інтэнсыўнай у відзе сыра ў Беларусі палягчалася наступным. Як ужо было заўважана, малочная гаспадарка была пераважна ў буйных прыватна-ўладарскіх гаспадарках. Дзякуючы гэтаму лёгка дасягалася аднолькавасьць значных партый малака для сыраварэньня. Замежная парода буйнае рагатае жывёлы прыватнаўладарскіх гаспадарак, якая давала малако з меншым процантам жыру, таксама спрыяла пашырэньню сыраварэньня. Паколькі буйныя гаспадаркі мелі большую магчымасьць запрашаць высока-кваліфікаваных спэцыялістых і гэта таксама спрыяла сыраварэньню.

Дзякуючы разьвіцьцю буйных гарадзкіх цэнтраў аналёгічны малюнак росту іншых малочных продуктаў мы маем і адносна сьвежага малака, якое збывалася на рынак.

**Малако сьвежае (у тысяч. пуд.)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Смаленская | +42 | +59 | 42 | 63 |
| Віцебская | +163 | +80 | 173 | 107 |
| Магілеўская | — | +9 | — | 11 |
| Менская | +1 | +39 | 1 | 39 |
| Віленская | —9 | —132 | 26 | 154 |
| Горадзенская | —5 | —37 | — | 27 |
| **Усяго па Бел.** | +192 | +18 | 242 | 401 |
| **Па 22 пав. БССР.** | +3 | +44 | 3 | 75 |

Найбольшы рост быў у Віленскай губ. затым, што Вільня была больш буйным цэнтрам. У 1900-02 г. сьвежае малако ў Віцебскай губ. вывозілася толькі ст. Антанопаль (163 тыс пуд.). У 1911-13 г. Антанопаль вывозіць значна менш, затое ў Віцебскай губ. зьявілася шмат іншых пунктаў сьвежа-малочнай продукцыі. Рост рыначнай продукцыі сьвежага малака быў выклікан разьвіцьцём мясцовых буйна-гарадзкіх цэнтраў, што пацьвярджаецца картограмамі № 36 і 37.

Падагульваючы сказанае адносна буйнае рагатае жывёлы, трэба адзначыць 1) рост мясной продукцыі ва ўсіх раёнах, якую неабходна аднесьці галоўным чынам за кошт росту буйнае, рагатае жывёлы ў сялянскай гаспадарцы, 2) у экстэнсыўных раёнах—рост продукцыі масла, 3) у больш жа інтэнсыўных раёнах расла продукцыя другіх малочных продуктаў, пераважна сыраварэньне, 4) у блізасьці буйна-гарадзкіх цэнтраў разьвівалася рыначная продукцыя сьвежага малака. Неабходна таксама адзначыць, што ўся рыначная малочная продукцыя была галоўным чынам продукцыяй прыватна-ўладарскіх гаспадарак.

## IX.
## СЬВІНАГАДОЎЛЯ.

З малочна-масьлянай гаспадаркай звычайна разьвіваецца сьвінагадоўля, бо астаткі здыманага малака зьяўляюцца самым лепшым кормам для сьвінога маладняка. У гэтых выпадках гаспадарка збывае на рынак парасята і падсьвінкі. Такая мясная сьвінагадоўля ў Беларусі мела малое значэньне.

**Сьвіное сала (у тысяч. пуд.)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Смаленская | +6 | —10 | 11 | 3 |
| Віцебская | +8 | +50 | 48 | 55 |
| Магілеўская | +6 | —5 | 7 | 1 |
| Менская | +4 | +21 | 13 | 35 |
| Віленская | +12 | —3 | — | — |
| Горадзенская | +1 | —8 | 5 | — |
| **Усяго па Бел.** | +13 | +45 | 84 | 94 |
| **Па 22 пав. БССР** | +54 | +45 | 61 | 48 |

Аб'яднаньне чугуначнай статыстыкай сьвініны і сала ў адну групу не дае магчымасьці дакладна выдзеліць раёны мясной і сальнай сьвінагадоўлі. Але ўсё-ж кіруючыся некаторымі ўкоснымі данымі можна падыйці да вырашэньня гэтага пытаньня. Напрыклад, Менск вывозіў сьвініну і сьвіное сала, адначасна ўвозячы з Навагрудзкага раёну жывых сьвіней, і такім чынам быў месцам перапрацоўкі сальных сьвіней Заходняй Беларусі. Станцыі-ж Віцебска-Полацка-Невельскага раёну ў 1900-02 і 1911-13 г.г. вывозілі сьвіное сала ў значных разьмерах, ня ўвозячы жывых сьвіней. (**гл. картогр.** № 38 і 39).

Гэты раён зьяўляецца раёнам пераважна масьляна-малочнай продукцыі. Гэты-ж раён па перапісях 1916—17 г. характэрызуецца і найбольш высокім процантам маладняку ў сьвіным стадзе. Трэба спадзявацца, што ён і быў раёнам мясное свінагадоўлі, зьвязанае з малочнай гаспадаркай; адсюль вывозілася ня сала, а сьвініна. Па высокаму проценту маладняку ў сьвіным стадзе выдзяляецца таксама Сычоўска-Гжацка-Вяземскі раён які,

меў невялікія лішкі сьвініны. Такая рыначная сьвінагадоўля, якая зьвязана з астаткамі малочнае гаспадаркі, у Беларусі разьвівалася слаба. Прычынамі гэтага былі, папершае, слабы тэмп разьвіцьця малочнай гаспадаркі наогул і, падругое, перабудова яе для вытворчасьці больш інтэнсыўных продуктаў, як сыр, сьмятана, сьвежае малако, дзякуючы чаму скарачаліся малочныя астаткі.

Сьвінагадоўля масавае гаспадаркі Беларусі была сальнаю. Падставай для яе зьяўлялася культура бульбы. На рынак вывозіліся жывыя дарослыя сьвіньні.

**СВІНЬНІ (штук)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (−) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Смаленская | −41 | — | — | — |
| Віцебская | −747 | +307 | 246 | 437 |
| Магілеўская | −1710 | −2511 | — | — |
| Менская | +10187 | +17902 | 12993 | 28183 |
| Віленская | −5097 | +1850 | 4568 | 15806 |
| Горадзенская | +17567 | +28550 | 23782 | 31948 |
| **Усяго па Бел.** | +20159 | +46098 | 41589 | 76374 |
| **Па 22 пав. БССР** | +1136 | +2701 | 3912 | 12982 |

З 1900 да 1917 г. маем узрост лішкаў сьвіней на 80%. Рыначная сьвінагадоўля, як у 1900-02 г., так і 1911-13 г. была сконцэнтравана ў Горадзенскай губ., паўночназаходнім кутку Меншчыны і паўднёвай частцы Віцебскай губ. (*гл. картограмы* № 40 і 41).

У зьвязку з адзначаным сальным характарам нашае сьвінагадоўлі становіцца зразумелым, чаму яно концэнтравалася выключна ў заходняй частцы Беларусі. Адначасна з багацьцем кармовай бульбы гэты раён меў і значныя запасы кармовага зярна, асабліва ячменю, што зьяўляецца неабходнымі ўмовамі для разьвіцьця сальнае сьвінагадоўлі. Гэтым тлумачыцца адсутнасьць рыначнай сьвінагадоўлі ў Палесьсі ня гледзячы на тое, што яно было многасьвінным і многабульбяным.

Вось зачым пэрспэктывы нашай сьвінагадоўлі неабходна зьвязаць з пэрспэктывамі кармовага зярна і асабліва ячменю (мясцовага ці ўвознага.)

## X.

## ПТАШНІЦТВА.

Залежна ад большага ці меншага запасу кармовага зярна ў гаспадарцы тых ці іншых раёнаў Беларусі, складаўся і характар рыначнага пташніцтва. Раёны багатыя кармовым зярном дастаўлялі на рынак яйкі. Раёны-ж багатыя адпаведнымі выпасамі давалі на рынак мясныя продукты пташніцтва, галоўным чынам жывых птушак.

**Жывая птушка (у тысяч. пуд.)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | | Рыначныя лішкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1909 г. | 1913 г. | 1900—02 г. | 1909 г. | 1913 г. |
| Смаленская . | +7 | +4 | +13 | 8 | 4 | 13 |
| Віцебская . . | +88 | +61 | +53 | 91 | 61 | 56 |
| Магілеўская . | +105 | +309 | +79 | 105 | 311 | 79 |
| Менская . . | +38 | +34 | +25 | 39 | 34 | 25 |
| Віленская . . | +126 | +53 | +57 | 130 | 53 | 61 |
| Горадзенская | +12 | —334 | —16 | 51 | 12 | 14 |
| **Усяго па Бел.** | +376 | +127 | +211 | 425 | 475 | 248 |
| **Па 22 пав. БССР** | +60 | +80 | +48 | 61 | 82 | 51 |

Рыначныя лішкі жывой птушкі з 1900 да 1913 г.г. зьменшыліся ва ўсіх раёнах. Толькі у 1909 г. дае вялікае павялічэньне лішкаў жывой птушкі Магілеўская губ. Дзякуючы значным калябаньням вывазу жывой птушкі за асобныя гады некалькі цяжка зрабіць вывад, у якім напрамку разьвівалася мясное пташніцтва ў Беларусі. Але ў зьвязку з агульным ростам зямельнае нястачы і скарачэньнем выганаў можна думаць, што мясное пташніцтва ня мела шырокіх пэрспэктыў для свайго разьвіцьця.

У 1900-02 лішкі жывой птушкі былі ва ўсіх раёнах акром Смаленскай губ. і паўночнай часткі Магілеўшчыны (*гл. картограму* № 42).

К 1909 і 1913 г. лішкі жывой птушкі концэнтруюцца ў паўднёвай частцы магілеўшчыны і паўночна-заходнім кутку Віцебскай і Віленскай губ. (*гл. картограмы* № 43 і 44).

Концэнтраваньне мяснога пташніцтва ў гэтых раёнах напэўна знаходзіцца ў сувязі з вялікімі разьмерамі адпаведных выпасаў, у Горадзенскай-жа губ., дзякуючы значным запасам кармовага зярна, мясное пташніцтва перабудоўвалася і пераходзіла да больш інтэнсыўнай продукцыі (яечнай).

**Яйкі (у тысяч пуд.)**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1913—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Смаленская . | —2 | — | — | — |
| Віцебская . . | +16 | +18 | 19 | 18 |
| Магілеўская . | +21 | +45 | 21 | 45 |
| Менская . . . | +30 | +59 | 30 | 59 |
| Віленская . . | +8 | +36 | 14 | 37 |
| Горадзенская . | +38 | +71 | 38 | 71 |
| **Усяго па Бел. .** | +111 | +229 | 122 | 230 |
| **Па 22 пав. БССР** | +30 | +54 | 33 | 54 |

Усе губэрні, акром Смаленскай і Віцебскай, даюць рост рыначных лішкаў яек прыблізна на 100%. Лішкі яек, як у 1900-02, так і ў 1911-13 г., концэнтраваліся ў раёнах, маючых лішкі зярна Гарадзеншчыны, Менска-Навагрудзка-Слуцкага раёну, паўночнай Магілеўшчыны і паўднёвай частцы Магілеўскай, дзе яно было напэўна зьвязана з лішкамі канаплянага семя (*гл. картогр.* № 45 і 46).

## XI.
## КОНЯГАДОЎЛЯ.

Ужо ня раз адзначаліся асаблівасьці організацыі сельскай гаспадаркі заходняй часткі Беларусі, якія зьявіліся галоўным чынам пад уплывам больш культурнай гаспадаркі Захаду. Гэты ўплыў вельмі выразна адбіўся на конягадоўлі заходняй Беларусі, дзе быў рост рынанчых лішкаў коняй.

**Коні [штукі]**

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. |
| Смаленская | —1756 | +296 | — | 1570 |
| Віцебская | —753 | —4157 | 414 | 55 |
| Магілеўская | —565 | —3400 | 611 | 173 |
| Менская | +232 | +238 | 393 | 1511 |
| Віленская | +1318 | +2766 | 1452 | 2913 |
| Горадзенская | +593 | +1772 | 639 | 1943 |
| **Усяго па Бел.** | —931 | —2485 | 3509 | 8185 |
| **Па 22 пав. БССР** | —1062 | —3845 | 647 | 1002 |

Лішкі коняй павялічыліся ў Горадзенскай, Віленскай, Менскай і Смаленскай губ. Віцебская-ж і Магілеўская губ., наадварот, павялічылі ўвоз коняй.

1900-02 г. лішкі коняй былі толькі ў раёне Вільні і заходняй частцы Горадзенскай губ. (*гл. картогр.* № 47).

Конягадоўля Заходняй Беларусі разьвівалася з аднаго боку пад уплывам працы буйнейшага Віленскага конзаводу коняй-цяжкавозаў, а з другога боку—вялікага попыту на буйных коняй Польшчы і Нямеччыны, куды збываліся нашы коні. Заходняя частка Беларусі па даных ваенна-конскай перапісі 1912 г. характэрызуецца найбольш высокарослым канём, а таксама і большым процантам у стадзе кабыл і маладняку. Гэты раён галоўным чынам дае і рост лішкаў коняй к 1911-13 г. (*гл. картогр.* № 48).

Дзякуючы працы Смаленскіх конзаводаў рысістых коняй, а таксама і блізкасьці Маскоўскага рынку ў 1911-13 г. мы маем лішкі коняй у Смаленскай губ.

## XII.
## Садоўніцтва і гародніцтва.

Цяпер спынімся яшчэ на дзьвёх падсобных галінах сельскай гаспадаркі—садоўніцтве і гародніцтве.

Яблыкі [у тысяч. пуд.]

| Губэрні | Вываз (+) ці ўвоз (—) | | Рыначныя лішкі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Горадзенская . | —7 | —13 | 5 | 15 |
| Віленская . . | +58 | +38 | 77 | 83 |
| Менская . . . | +169 | +357 | 176 | 380 |
| Віцебская . . | +318 | +467 | 318 | 467 |
| Магілеўская . | +322 | +886 | 322 | 322 |
| Смаленская . | +21 | —12 | 36 | 36 |
| **Усяго па Бел.** . | +881 | +1723 | 934 | 1855 |
| **Па 22 пав. БССР** | —562 | +920 | 562 | 928 |

Лішкі яблык узрасьлі прыблізна на 100%. Па вялічыні лішкаў яблык, губэрні разьмяркоўваліся ў такім парадку: Магілеўская, Віцебская, Менская, Віленская. Смаленская-ж і Горадзенская ўвозілі яблыкі. Разьвіцьцю рыначнага садоўніцтва ў Смаленшчыне і Горадзеншчыне мусіць перашкаджалі кліматычныя ўмовы (гл. ход ізотэрм на *картогр.* № 50). Для яблык клімат Смаленшчыны пэўна халодны, а Горадзеншчыны—цёплы. Рыначнае садоўніцтва было пераважна ў буйнай прыватна-ўладарскай гаспадарцы. Танныя рабочыя рукі спрыялі разьвіцьцю гэтай інтэнсыўнай галіны гаспадаркі і мы бачым значны яе рост.

У 1900-02 г. лішкі яблык былі галоўным чынам у раёнах: Аршанска-Магілеўскім, Віцебска-Полацка-Дрысенскім, Бабруйскім, Гомельскім і Менскім (*гл. картогр.* № 49).

У 1911-13 г. яшчэ больш рэзка выдзяляюцца тыя-ж раёны, асабліва паўднёвая частка Магілеўшчыны (*гл. картогр.* № 50).

Значна меншую рыначную значымасьць мела гародніцтва, якое концэнтравалася ў раёнах буйных гарадоў. За 1911-13 г. мы мелі чысты вываз продуктаў гародніцтва ў такіх разьмерах: Смаленск—55 тыс. пуд., Вязьма—10 тыс. пуд. (гуркоў), Полацак—40 тыс. пуд. (25 т. п. капусты і 15 т. п. гуркоў), Віцебск—50 тыс. пуд. (40 т. п. капусты і 10 тыс. пуд. гуркоў), Касьцюкоўка—32 т. п. (капусты), Почап—17 т. п. (цыбуля), Жудзілава—18 т. пуд. (цыбуля), Унеча—4 т. п. (цыбуля), Бярэзіна—8 т п. (цыбуля), Ляхавічы—5 т. п. (цыбуля), Горадня—80 т. п. (капуста), Берасьця—23 т. п. (капуста).

Неабходна таксама адзначыць у раёне Почапа значны рост культуры табакі.

Вываз са ст. Почап табакі тамтэйшай рускай у лістах, карашках і пупышках:

| 1902 г. | 1904 г. | 1907 г. | 1911 г. |
|---|---|---|---|
| 66 т. п. | 87 т. п. | 127 т. п. | 152 т. п. |

Вось наогул тыя зьмены, якія адбыліся з 1900 да 1903 г. у галоўнейшых складаных частках сельскай гаспадаркі Беларусі па асобных раёнах. Мы бачылі рост інтэнсыўнасьці гаспадаркі па меры пераходу з усходу на захад Беларусі. Прычыны гэтага: папершае, пераважны ўплыў заходняга рынку і больш культурнай гаспадаркі захаду; падругое, значна нізкія цэны на рабочыя рукі. Заработак штодзённага рабочага законамерна зьніжаецца з усходу на захад.

Штодзенная плата пешаму рабочаму на сваіх харчах (сярэдняя за 3 пэрыоды—веснавога засеву, сенакосу і збору збожжа.

| Губэрні і раёны | 1891—900 г. у капейках. | 1901—10 г. |
|---|---|---|
| Горадзенская | 37 | 53 |
| Віленская | 43 | 58 |
| Менская | 46 | 59 |
| Магілеўская | 47 | 60 |
| Віцебская | 51 | 63 |
| Смаленская | 57 | 65 |
| Нечарназемная паласа | 57 | 73 |
| Эуроп. Расія | 56 | 72 |

## XIII.

### Характэрыстыка сельскай гаспадаркі паасобных губэрняў.

Каб параўнаць паміж сабою тэмп зьмен паасобных частак, а таксама выявіць і агульны тэмп разьвіцьця сельскай гаспадаркі Беларусі за пэрыод 1900-1913 г., мы ўсе рыначныя лішкі, як 1900-12 г., так і 1911-13 г., перавядзем на грошы ў мясцовых цэнах 1909-13 г. Пакольні ў папярэднім аналізе мы ўвесь час рабілі параўнаньне між сабою асобных раёнаў па характару асобных галін гаспадаркі, загэтым цяпер больш падрабязна спынімся на характэрыстыцы складаных частак усяе гаспадаркі па кожнай губэрні па асобку.

Пачнём з захаду.

### Горадзенская губ.

| Групы продуктаў | Кошт рынаэчных лішкаў у тыс. руб. 1900—02 г. | 1911—13 г. | % росту | Склад рыначных лішкаў у % да агульнага ліку 1900—02 г. | 1911—13 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Зернавыя | 682,8 | 900,4 | +31,87 | 13,45 | 12,75 |
| Продукт. ільну і канап. | 300,7 | 202,8 | −32,56 | 5,91 | 2,87 |
| Бульба і продукты яе перапрацоўкі | 912,4 | 1521,9 | +66,80 | 17,98 | 21,55 |
| Інш. прадук. земляроб. | 114,7 | 116,5 | +1,60 | 2,26 | 1,65 |
| Усяго ад земляробства | 2010,6 | 2741,6 | +36,36 | 39,60 | 38,82 |
| Буйн. рагат. жывёлы і яе продукты | 521,9 | 855,2 | +63,86 | 10,28 | 12,11 |
| Малочныя продукты | 792,5 | 1167,3 | +47,00 | 15,61 | 16,53 |
| Сьвіньні і продукты сьвінагадоўлі | 1141,6 | 1573,8 | +37,80 | 22,47 | 22,28 |
| Продукты пташніцтва | 407,0 | 349,0 | −14,25 | 8,02 | 4,94 |
| Іншыя продукты жывёлагадоўлі | 204,3 | 375,2 | +83,60 | 4,02 | 5,32 |
| Усяго продуктаў жывёлагадоўлі | 3067,3 | 4320,5 | +40,90 | 60,40 | 61,18 |
| Усяго рынач. лішкаў | 5077,9 | 7062,1 | +39,08 | 100 | 100 |

Умоўныя рыначныя лішкі сельскай гаспадаркі Горадзенскай губ. у 1900-02 г. каштавалі 5077,9 т. руб — на душу насельніцтва прыпадала каля 3-х руб. З іх жывёлагадоўля давала ў паўтара разы больш чым земляробства. Амаль што палавіну рыначных лішкаў ад земляробства складалі бульба і продукты не тэхнічнай перапрацоўкі, галоўным чынам сьпірытус (13%). Затым ішлі збожжавыя, з іх больш

палавіны прыпадае на жыта (7.5%).

Лішкі жывёлагадоўлі складаліся ў першую чаргу з продуктаў буйнае рагатае жывёлы, з іх 10% складала жывая буйная рагатая жывёла і мяса, 16%—малочныя продукты, якія на палавіну зьяўляліся маслам і на палавіну іншымі малочнымі продуктамі.

Удзельная вага сьвінагадоўлі ў рыначных лішках Горадзеншчыны амаль што раўнялася продукцыі буйнае рагатае жывёлы.

Пташніцтва складала 8%, з іх 5% далі жывыя птушкі і 3% яйкі.

З 1900-02 да 1911-13 г. рыначныя лішкі Горадзеншчыны ўзрасьлі на 39%. Пры чым продукты жывёлагадоўлі далі большы рост, чымся продукты земляробства. З продуктаў земляробства найбольшы рост дала бульба, затым збожжавыя, галоўным чынам жыта і ячмень. Лішкі ільну і канапель скараціліся, іншыя засталіся ў тым самым стане. З продуктаў жывёлагадўоліі найбольшы рост выявілі іншыя (галоўным чынам коні), затым мясныя продукты буйнае рагатае жывёлы, затым малочныя, масла ці іншыя здабыткі—аднолькава сьвінагадоўля ўзрасла на 38%, пташніцтва-ж скарацілася, пры чым гэта скарачэньне адносіцца выключна за кошт лішкаў жывой птушкі, бо яечная продукцыя ўзрасла на 85%.

У 1911-13 г. умоўныя рыначныя лішкі Горадзенскай губ. каштавалі 7962,1 тыс. руб — на душу сельскага насельніцтва каля 3 руб. 50 кап. З іх ужо толькі 39% давала земляробства, 61%—жывёлагадоўля. Мы маем некаторы рост удзельнае вагі жывёлагадоўлі, які быў галоўным чынам у продуктах буйнае рагатае жывёлы. З продуктаў земляробства павялічылася ўдзельнае значэньне бульбы і часткаю збожжавых. Па галоўнейшых рыначных продуктах Горадзенскую губ. можна характэрызаваць, як мяса-бульбяна-малочную. Гэтыя продукты (адносячы да мяса і сьвіней) складалі каля дзьвёх трэцяй усіх рыначных лішкаў.

Прыблізна такі самы склад рыначнасьці мы маем і ў Віленскай губ.

**Віленская губ.**

| Групы продуктаў | Кошт рыначных лішкаў у тыс. руб. | | % росту | Склад рыначных лішкаў у %% да агульнага ліку | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Зярновыя . . . . . | 325,8 | 671,3 | +106,05 | 8,31 | 11,79 |
| Продукт. ільну і канап. | 1028,3 | 897,8 | —18,25 | 28,01 | 15,77 |
| Бульба і продукты яе перапрацоўкі . . | 851,5 | 1310,9 | +53,90 | 21,72 | 23,02 |
| Інш. продук. земляроб. | 103,1 | 101,0 | —2,00 | 2,63 | 1,78 |
| Усяго ад земляроб. . | 2378,7 | 2981,0 | +25,33 | 60,67 | 52,36 |
| Буйн. рагат. жывёлы і яе продукты . . | 277,6 | 697,2 | +151,16 | 7,08 | 12,24 |
| Малочныя продукты . | 230,7 | 648,9 | +181,30 | 5,88 | 11,40 |
| Сьвіньні і продукты сьвінагадоўлі . . . | 205,5 | 711,3 | +246,10 | 5,24 | 12,50 |
| Продукты пташніцтва | 706,0 | 433,0 | —38,66 | 18,01 | 7,61 |
| Інш. прод. жывёлаг. . | 122,3 | 221,5 | +81,10 | 3,12 | 3,89 |
| Усяго продуктаў жывёлагадоўлі . . | 1542,1 | 2711,9 | +75,80 | 39,33 | 47,64 |
| Усяго рыначн. лішкаў | 3920,8 | 5692,9 | +45,18 | 100 | 100 |

Умоўныя рыначныя лішкі Віленскай губ. у 1900 02 г каштавалі 3920,8 т. руб., што складала на душу сельскага насельніцтва каля 2,5 руб.

Суадносіны земляробства і жывёлагадоўлі ва ўмоўных рыначных лішках гаспадаркі Віленскай губ. у 1900-02 г. працівалеглы суадносінам гэтых галін у Горадзенскай губ. Тут земляробства давала ў паўтара разы большы, чым жывёлагадоўля. З продуктаў земляробства выдзяляліся продукты лёнаводзтва (каля 20%), потым бульба з продуктамі яе тэхнічнай перапрацоўкі. Зярновыя займалі параўнаўча невялікае месца і складаліся галоўным чынам з жыта, аўса і гароху. Рыначныя лішкі продуктаў жывёлагадоўлі амаль што на палавіну складаліся з продуктаў пташніцтва (16% жывая птушка і 2% яйкі). Далей ішлі продукты буйнае рагатае жывёлы, з якіх жывая жывёла і мяса давалі больш палавіны. Рыначныя лішкі сьвінагадоўлі прыблізна раўняліся рыначнай малочнай продукцыі.

К 1911-13 г. сельская гаспадарка Віленскай губ. павялічыла свае рыначныя лішкі амаль у паўтара разы. На душу вясковага насельніцтва яны давалі ўжо 2,8 руб. Рост адбыўся галоўным чынам за кошт росту продуктаў жывёлагадоўлі. Адпаведна гэтаму ўдзельная вага продуктаў жывёлагадоўлі ў агульнай масе рыначных лішкаў гаспадаркі значна паднялася.

З паасобных продуктаў жывёлагадоўлі асабліва значным быў рост рыначных лішкаў продуктаў сьвінагадоўлі (жывых сьвіней). Потым амаль у тры разы павялічыліся рыначныя лішкі малочных продуктаў. З іх больш за ўсё ўзрасьлі сьвежае малако, потым масла. Іншыя малочныя здабыткі менш.

Мясная продукцыя буйной рагатае жывёлы ўзрасла у 2,5 разы. Пташніцтва скарацілася за кошт скарачэньня рыначных лішкаў жывое птушкі. Наадварот рыначная продукцыя яек амаль патроілася.

З продуктаў земляробства найбольшы рост далі зярновыя (жыта і ячмень), за імі бульба. Рыначная ж продукцыя лёну скарацілася.

У сувязі з неаднолькавым тэмпам росту паасобных галін, зьмянілася і іх удзельная вага ў агульнай рыначнасьці гаспадаркі.

Па складу ўмоўных рыначных лішкаў у 1911-13 г. Віленская губ. падобна да Горадзенскае. Яе таксама можна характэрызаваць, як мяса-бульбяна-малочную.

Прыблізна такі-ж самы склад рыначных лішкаў мела і Менская губ.

**Менская губ.**

| Групы продуктаў | Кошт рыначных лішкаў у тыс. руб. 1900—02 г. | Кошт рыначных лішкаў у тыс. руб. 1911—13 г. | % росту | Склад рыначных лішкаў у %% да агульн. ліку 1900—02 г. | Склад рыначных лішкаў у %% да агульн. ліку 1911—13 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Зярновыя . . . . . | 1376,4 | 1451,9 | +5,40 | 18,62 | 12,78 |
| Продукт. лёну і канап. | 1098,3 | 897,7 | —18,26 | 14,86 | 7,90 |
| Бульба і продукты яе перапрацоўкі . . | 1598,7 | 2763,8 | +72,84 | 21,63 | 24,33 |
| Інш. продукт. земляроб. | 227,0 | 424,9 | +87,20 | 3,07 | 3,75 |
| Усяго ад земляроб. . | 4300,4 | 5538,3 | +28,78 | 58,18 | 48,76 |
| Буйная рагат. жывёла і яе мясныя прод. . | 1217,6 | 2010,4 | +65,10 | 16,47 | 17,69 |
| Малочныя продукты . | 706,2 | 1512,5 | +114,10 | 9,56 | 13,32 |
| Сьвіньні і продукты сьвінагадоўлі . . . | 682,2 | 1530,7 | +124,30 | 9,23 | 13,47 |
| Продукты пташніцтва | 315,0 | 383,5 | +21,75 | 4,27 | 3,38 |
| Інш. прод. жывёлаг. . | 169,5 | 383,3 | +126,14 | 2,29 | 3,38 |
| Усяго прод. жывёлаг. | 3090,5 | 5820,4 | +88,32 | 41,82 | 51,24 |
| Усяго рыначн. лішкаў | 7390,9 | 11358,7 | +53,60 | 100 | 100 |

Умоўныя рыначныя лішкі Менскай губ. у 1900-02 г. каштавалі 7390,9 тыс. руб; на душу выпадала 3,1 руб. Таксама, як і ў Віленскай губ. продукты земляробства давалі амаль што ў паўтара разы больш, чым продукты жывёлагадоўлі. З продуктаў земляробства на першым месцы стаяла бульба і продукты яе тэхнічнай перапрацоўкі, галоўным чынам сьпірытус (17%). Затым ішлі зярновыя (жыта 7%, ячмень 7%) і нарэшце лён.

З продуктаў жывёлагадоўлі першае месца займала буйная рагатая жывёла з яе мяснымі продуктамі. Затым амаль што аднолькавае значэньне мелі рыначныя продукты малочнай гаспадаркі і сьвінагадоўлі; рыначныя продукты пташніцтва складалі менш палавіны рыначных продуктаў сьвінагадоўлі.

У 1911-13 г. умоўныя рыначныя лішкі ў Менскай губ. каштавалі 11358,7 т. р.,— на душу сельскага насельніцтва 3,8 руб. З 1900-02 г. да 1911-13 г. рыначныя лішкі павялічыліся ў паўтара разы. Тэмп росту-ж продуктаў жывёлагадоўлі ў два разы большы, чым тэмп росту продуктаў земляробства. З продуктаў жывёлагадоўлі найбольшы рост далі продукты сьвінагадоўлі і малочнае гаспадаркі (галоўным чынам сыру). Мясная продукцыя буйнае рагатае жывёлы ўзрасла менш. Мясное пташніцтва скарацілася. Рыначная-ж продукцыя яек амаль што падвоілася.

З продуктаў земляробства найбольшы рост дала бульба, затым яблыкі. Лёнаводзтва-ж скарацілася. Збожжавыя расьліны далі нязначны рост.

У выніку гэтых зьмен мяса—бульбяны характар сельскай гаспадаркі Менскай губ. выявіўся яшчэ больш выразна.

У трох папярэдніх губэрнях Горадзенскай, Віленскай і Менскай продукты жывёлагадоўлі ў агульнай рыначнасьці гаспадаркі займалі каля палавіны. У наступных трох губэрнях продукты земляробства, галоўным чынам тэхнічныя культуры, займалі каля 3-х чвэртак агульнай рыначнасьці гаспадаркі. Хоць тэмп росту рыначных продуктаў жывёлагадоўлі ў Віцебскай і Магілеўскай губ. быў сільнейшы чым рыначнасьць продуктаў земляробства, гаспадарка гэтых губэрняў ішла ў тым-жа напрамку, як і гаспадарка паўднёва-заходняй Беларусі. Толькі Смаленшчына шпарка пашырала продукцыю лёну, якая перамагала ўсе іншыя галіны гаспадаркі. Замена рыначнай продукцыі земляробства рыначнай продукцыяй жывёлагадоўлі, г. зн. пераход ад усходняга тыпу гаспадаркі да заходняга, у найбольш выразнай форме мы назіралі ў Віцебскай губ. Тут, як у найбольш стара-лёнаводнай губ., крызыс гаспадаркі павінен быў выявіцца ў першую чаргу дзякуючы аднабокаму зьбядненьню глебы культураю лёну. Мы ўбачым, што Віцебская губ. дала найбольш слабы прырост рыначных лішкаў.

**Віцебская губ.**

| Група продуктаў | Кошт рыначных лішкаў у тысяч. руб. | | % росту | Склад рыначных лішкаў у %% да агульнага ліку | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1911—13 г. | | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Зярновыя | 270,7 | 252,7 | —6,65 | 2,72 | 2,13 |
| Продукт. ільну і канап. | 7203,2 | 7575,0 | +5,16 | 72,31 | 64,03 |
| Бульба і продукты яе перапрацоўкі | 61,7 | 77,7 | +25,94 | 0,62 | 0,66 |
| Інш. прод. земляроб. | 439,5 | 575,0 | +30,83 | 4,41 | 4,86 |
| Усяго ад земляробства | 7975,1 | 8480,4 | +6,34 | 80,60 | 71,68 |
| Буйн. рагат. жывёла і яе мясныя прод. | 392,4 | 1357,4 | +245,80 | 3,94 | 11,37 |
| Малочныя продукты | 548,8 | 876,3 | +59,68 | 5,51 | 7,30 |
| Сьвіньні і продукты сьвінагадоўлі | 368,2 | 428,8 | +16,46 | 3,70 | 3,60 |
| Продукты пташніцтва | 531,0 | 364,5 | —31,35 | 5,33 | 3,05 |
| Інш. прод. жывёлагад. | 145,7 | 323,4 | +122,00 | 1,46 | 3,00 |
| Усяго прод. жывёл. | 1986,1 | 3350,4 | +68,70 | 19,94 | 28,32 |
| Усяго рыначн. лішкаў | 9961,2 | 11830,8 | +18,30 | 100 | 100 |

У 1900-02 г. умоўныя рынатчныя лішкі Віцебскае губ. каштавалі 9961,2 тыс. руб. —на душу выходзіла 6,2 руб. Амаль што тры чвэрткі рыначнасьці складалі продукты лёнаводзтва і толькі каля 1/5 продукты жывёлагадоўлі. З продуктаў жывёлагадоўлі першае месца займалі малочныя продукты (масла). На другім месцы сталі продукты пташніцтва (жывая птушка 4,5%). Рыначная мясная продукцыя буйнае рагатае жывёлы і сьвінагадоўлі былі амаль што аднолькавы. У 1911-13 г. рыначныя лішкі Віцебскай губ. каштавалі 11830,8 тыс. руб.—на душу выпадала 6,3 руб. З 1900-62 да 1911-13 г. рыначныя лішкі ўзрасьлі на 18,8%—менш, чым у другіх беларускіх губэрнях. Гэты рост адбыўся галоўным чынам за кошт росту продукцыі буйнае рагатае жывёлы. Пры чым мясная рыначная продукцыя ўзрасла значна больш, чым малочная. Сьвінагадоўля дала нязначны рост. Пташніцтва-ж галоўным чынам мясное скарацілася. З продуктаў земляробства найбольшы рост дало садоўніцтва. Лёнаводзтва дало нязначны рост. Зярновыя скараціліся. У выніку такога тэмпу росту асобных галін, мы маем у 1911-13 г. павялічэньне ўдзельнае значымасьці ў агульнай суме рыначных лішкаў продуктаў жывёлагадоўлі, асабліва продуктаў буйнае рагатае жывёлы. Па трох галоўнейшых рыначных продуктах Віцебскую губ. можна было характэрызаваць, як ільняна-мяса-малочную.

Характар сельскай гаспадаркі Магілеўскай губ. зьяўляецца прамежным паміж мяса-бульбяным паўднёвым захадам і йльняна-малочным паўночным усходам Беларусі. Акром таго, тут у паўднёва-ўсходнім кутку вялікае рыначнае значэньне мелі продукты культуры канапель. Гэтым пераходным характарам гаспадаркі Магілеўшчыны і тлумачыцца такая разнастайнасьць яе рыначных продуктаў.

**Магілеўская губ.**

| Группа продуктаў | Кошт рыначных лішкаў у тыс. руб. | | % росту | Склад рыначных лішкаў у % да агульнага ліку | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1900—02 г. | 1913—13 г. | | 1900—02 г. | 1911—13 г. |
| Зярновыя . . . . . | 826,9 | 752,2 | —9,03 | 9,51 | 4,99 |
| Продук. ільну і канап. | 5512,3 | 9344,1 | +69,51 | 63,40 | 62,04 |
| Бульба і продукты яе перапрацоўкі . . | 730,0 | 1446,4 | +98,10 | 8,40 | 9,60 |
| Інш. прод. земляроб. | 477,2 | 1129,2 | +136,60 | 5,48 | 7,50 |
| Усяго ад земляроб. . | 7546,4 | 12671,9 | +68,00 | 86,79 | 84,00 |
| Буйн. рагат. жывёла і яе мясн. прод. . | 201,1 | 469,3 | +133,4 | 2,31 | 3,11 |
| Малочныя продукты . | 162,7 | 506,4 | +211,25 | 1,88 | 3,37 |
| Сьвіньні і продукты сьвінагадоўлі . . . | 52,3 | 7,5 | —85,65 | 0,60 | 0,05 |
| Прод. пташніцтва . . | 614,0 | 115,5 | +88,10 | 7,60 | 7,67 |
| Інш. прод. жывёлаг. . | 118,5 | 270,9 | +128,60 | 1,36 | 1,80 |
| Усяго прод. жывёлаг. | 1148,6 | 2409,1 | +109,70 | 19,21 | 16,00 |
| Усяго рыначных лішкаў . . . . . . | 8695,0 | 1508,0 | +73,44 | 100 | 100 |

У 1900-02 г. рыначныя лішкі Магілеўскай губ. (з чатырма паветамі Чарнігаўшчыны) каштавалі 8695,0 тыс. руб., што давала на душу сельскага насельніцтва

3,4 руб. Продукты жывёлагадоўлі ў агульнай суме рынaчных лішкаў складалі ўсяго 13%, пры чым больш палавіны іх давала мяснoе пташніцтва (7%). З рынaчных продуктаў земляробства першае месца займалі продукты культуры канапель (40%), затым продукты лёнаводзтва (23%). З іншых продуктаў земляробства неабходна адзначыць вялікае значэньне продуктаў садоўніцтва (4%).

У 1911-13 г. рынaчныя лішкі Магілеўскай губ. каштавалі 15081,0 тыс. руб., што давала на душу сельскага насельніцтва 4,8 руб. З 1900-02 да 1911-13 г. рынaчныя лішкі павялічыліся на 73% пры чым тэмп росту продуктаў жывёлагадоўлі быў амаль што ў два разы хутчэйшы, чым тэмп росту продуктаў земляробства. З продуктаў жывёлагадоўлі найбольшы рост давалі малочныя продукты, затым мясныя продукты буйнае рагатае жывёлы і ўрэшце продукты пташніцтва.

З продуктаў земляробства больш за ўсе ўзрасла, амаль што патроілася, рынaчная продукцыя лёну, (у паўночнай Магілеўшчыне). Затым таксама значна ўзрасла рынaчная продукцыя яблык і бульбы ў (паўднёва-заходняй частцы Магілеўшчыны). Культура-ж канапель і збожжавых скарацілі свае рынaчныя лішкі.

Такім чынам, галоўнейшым рынaчным продуктам Магілеўшчыны былі лён, канопалі, бульба. Другараднымі, але меўшымі вялікае рынaчнае значэньне, былі продукты пташніцтва, яблыкі, малочныя продукты і мясныя.

Яшчэ большая ўдзельная вага продуктаў земляробства (ільну) у агульнай суме рынaчных лішкаў была ў Смаленскай губ.

**Смаленская губ.**

| Група продуктаў | Кошт рынaчных лішкаў у тыс. руб. 1900—02 г. | Кошт рынaчных лішкаў у тыс. руб. 1911—13 г. | % росту | Склад рынaчных лішкаў у % да агульнага ліку 1900—02 г. | Склад рынaчных лішкаў у % да агульнага ліку 1911—13 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Зярновыя | 388,9 | 231,3 | —40,52 | 3,29 | 1,10 |
| Прод. ільну і канап. | 9138,1 | 17604,7 | +92,70 | 77,38 | 80,89 |
| Бульба і продукты яе перапрацоўкі | 441,4 | 519,4 | +17,67 | 3,74 | 2,39 |
| Інш. прод. земляроб. | 217,3 | 719,9 | +231,30 | 1,84 | 3,30 |
| Усяго ад земляроб. | 10185,7 | 19075,3 | +87,20 | 86,25 | 87,68 |
| Буйн. раг. жывёла і яе продукты | 248,0 | 611,2 | +146,45 | 2,10 | 2,80 |
| Малочн. продукты | 1078,4 | 1597,4 | +48,10 | 9,14 | 7,35 |
| Сьвіньні і продукты сьвінагадоўлі | 81,9 | 22,3 | —72,76 | 0,69 | 0,10 |
| Продук. пташніцтва | 40,0 | 42,5 | +6,25 | 0,34 | 0,20 |
| Інш. прод. жывёлаг. | 175,0 | 406,7 | +132,40 | 1,48 | 1,87 |
| Усяго прод. жывёлаг. | 1623,3 | 2680,1 | +65,10 | 13,75 | 13,32 |
| Усяго рынaчных лішкаў | 11809,0 | 21755,4 | +84,20 | 100 | 100 |

Смаленская губ. характэрызуецца найбольшай сумай рынaчных лішкаў на душу сельскага насельніцтва і найбольшым ростам іх з 1900 да 1913 г.

Умоўныя рынaчныя лішкі Смаленскай губ. у 1900-02 г. каштавалі 11809,0 тыс. руб., што давала на душу сельскага насельніцтва 7,1 руб. Больш чым палавіну

гэтай рыначнасьці даваў лён (60°|₀). Продукты жывёлагадоўлі таксама амаль што на тры чвэрці складаліся з малочных продуктаў. У 1911-13 г. рыначныя лішкі лёну і сена. Культура канапель скарацілася. З продуктаў жывёлагадоўлі больш за ўсе павялічыліся рыначныя лішкі мяса буйнае рагатае жывёлы, малочныя продукты і коні.

Смаленскую губ. можна характэрызаваць, як льняна-малочную. Іншыя продукты мелі малое рыначнае значэньне. Толькі ў паўднёвай частцы губ. некалькі большае рыначнае значэньне мелі продукты ад культуры канапель.

## XIII.

## Характэрыстыка сельскай гаспадаркі ўсёй Беларусі і Б. С. С. Р.

Мы бачылі, як зьмяняўся склад рыначнасьці па меры пераходу з захаду на ўсход Беларусі. Бульбяна-мясны паўднёвы захад і льняна-малочны паўночны ўсход Беларусі вызначыліся яшчэ больш выразна. Па меры пераходу з захаду на ўсход мы бачылі рост умоўных рыначных лішкаў на душу сельскага насельніцтва. У 1911-13 г. умоўныя рыначныя лішкі продуктаў сельскай гаспадаркі ў рублёх на душу сельскага насельніцтва былі такія: у Віленскай губ. 2,86; Горадзенскай—3,53; Менскай—3,88; Магілеўскай—4,86; Віцебскай—6,31 і Смаленскай—10,6. Такім чынам мы бачым, што рост рыначнасьці гаспадаркі яшчэ ня сьведчыць аб яе рацыянальнай інтэнсыфікацыі. Наадварот, рыначнасьць можа быць і шкоднай, падрываючай організацыйныя асновы гаспадаркі. Спынімся цяпер на характэрыстыцы складу рыначных лішкаў Беларусі цалкам, як уэтнографічных межах, так і ў межах БССР.

**Усяго па беларускіх у губэрнях**

| Групы продуктаў | Кошт рыначных лішкаў у тыс. руб. 1900—02 г. | Кошт рыначных лішкаў у тыс. руб. 1911—13 г. | °/₀ росту | Склад рыначных лішкаў у °/₀ да агульнага ліку 1900—02 г. | Склад рыначных лішкаў у °/₀ да агульнага ліку 1911—13 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Зярновыя . . . . . | 3865,6 | 4259,8 | +10,20 | 8,21 | 5,88 |
| Прод. ільну і канапель | 24173,5 | 36553,8 | +51,20 | 51,32 | 50,43 |
| Бульба і продукты яе перапрацоўкі . . | 4304,3 | 7313,5 | +69,90 | 9,14 | 10,09 |
| Інш. прод. земляроб. | 1578,9 | 3066,5 | +94,20 | 3,35 | 4,23 |
| Усяго ад земляроб. . | 33922,3 | 21193,6 | +50,91 | 72,02 | 70,63 |
| Буйн. рагат. жывёлы і мясныя прод. . . | 2858,6 | 6000,7 | +109,90 | 6,07 | 8,28 |
| Малочныя продукты . | 3519,3 | 6308,8 | +79,24 | 7,47 | 8,70 |
| Сьвіньні і продукты сьвінагадоўлі . . . | 2531,7 | 4274,5 | +68,82 | 5,37 | 5,90 |
| Продукты пташніцтва | 2613,0 | 2727,5 | +4,40 | 5,55 | 3,76 |
| Інш. прод. жывёлаг. . | 1655,2 | 1980,9 | +19,63 | 3,52 | 2,73 |
| Усяго продуктаў жывёлагадоўлі . . | 13177,8 | 21292,4 | +61,60 | 27,98 | 29,37 |
| Усяго рыначн. лішкаў | 47100,1 | 72486,0 | +53,90 | 100 | 100 |

Умоўныя рыначныя лішкі па шасьцёх беларускіх губ. у 1900-02 г. каштавалі 47100,1 тыс. руб., што давала на душу сельскага насельніцтва прыблізна 4 руб. Амаль што тры чвэрткі рыначных лішкаў давалі продукты земляробства. З про-

